● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

3 верасня 1998 г. чацвер, № 173 (23524)



# ЗВЯЗДА

## У КАСТРЫЧНІКУ СТУДЭНТАМ ПАДЫМУЦЬ «ЗАРПЛАТУ»

Як ужо паведамляла «Звязда», урадам краіны павялічваецца памер мінімальнай заработнай платы, і ўжо з 1 кастрычніка яна будзе роўна 350 тысячам рублёў. Як нам растлумачылі ў Міністэрстве адукацыі, памер амаль усіх відаў стыпендый цалкам залежыць ад змянення мінімальнай заработнай платы. Менавіта таму ў кастрычніку студэнты атрымаюць «зарплату» ў 1,4 раза большую, чым у верасні.

Паводле даных планава-эканамічнага ўпраўлення БДУ, сёння ў гэтай вышэйшай навучальнай установе мінімальная вучэбная стыпендыя складае 240 працэнтаў ад «мінімалкі» і роўна 600 тысячам рублёў. У кастрычніку не вельмі руплівыя студэнты БДУ атрымаюць стыпендыю ўжо ў памеры 840 тысяч рублёў. Падрастуць у галоўным універсітэце краіны і сацыяльныя стыпендыі. Замест 400 тысяч рублёў такія студэнты «заўтра» атрымаюць дапамогу ад дзяржавы ў памеры 560 тысяч рублёў. Добра падрастуць у БДУ і максімальныя стыпендыі. Калі сёння выдатнікі факультэтаў гуманітарных навук атрымліваюць узнагароду за старанасць у памеры 900 тысяч рублёў, а выдатнікі факультэтаў прыродазнаўчых навук — 960 тысяч рублёў, то ў кастрычніку яны атрымаюць стыпендыю 1 мільён 200 тысяч рублёў і 1 мільён 344 тысячы рублёў адпаведна.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ПРЭЗІДЭНТ НАВЕДАЕ МАГІЛЁЎШЧЫНУ

З ходам уборкі збожжавых, ільну і сяўбы азімых азнаёміцца прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ў час рабочай паездкі ў Магілёўскую вобласць, намечанай на 3 верасня. Кіраўнік дзяржавы пабывае на палях і збожжатаках калгасаў імя Кірава Шклоўскага і «Аўсянка» Горацкага раёнаў. Вынікі сваёй паездкі па рэгіёну прэзідэнт падвядзе на нарадзе ў Магілёве.

**БЕЛТА.**

## ХЛЕБНЫЯ ЗАСЕКІ «ВУСЦЯ»



**Надвор'е як бы знарок шкодзіць хлебаробам Аршанскага раёна, выпрабоўвае іхнія моц, майстэрства, прафесіяналізм. Аднак у славутай гаспадарцы раёна — эксперыментальнай базе «Вусце» з палёў сабрана ўжо 85 працэнтаў ураджаю. Тут вырошчваюцца лепшыя сарты пшаніцы, жыта, ячменю. Элітнае зерне вось у такім выглядзе будзе разыходзіцца па многіх сельгаспадарках вобласці і краіны.**

Фота Анатоля КЛЯШЧУКА.

## ДЗЯРЖАВА І Ў ДАЛЕЙШЫМ БУДЗЕ ДАПАМАГАЦЬ ТЫМ, ХТО ЖАДАЕ ПАБУДАВАЦЬ СВОЙ ДОМ

Пытанні развіцця жыллёвага будаўніцтва ў рэспубліцы і шляхі вырашэння звязаных з гэтым праблем былі разгледжаны на нарадзе ў прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі 2 верасня. Яна адбылася ў рабочай рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы з удзелам прэм'ер-міністра краіны Сяргея Лінга, кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча, старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Мікалая Дамашкевіча, генеральнага пракурора Алега Бажэлкі, старшыні праўлення Нацыянальнага банка краіны Пятра Пракаповіча. Для абмеркавання праблемы былі запрошаны таксама кіраўнікі шэрагу міністэрстваў, банкаў, старшыні аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## На беларускім «чорным рынку» перакананы, што курс долара падаць не будзе

**Што горш — падзеі, якія разгортваюцца на расійскім фінансавым рынку, або тое, што робіцца на нашым уласным? І там, і тут назіраецца няўхільнае падзенне рублёў. Там — расійскага, тут — беларускага. У Маскве на электронна-латавых таргах учора зафіксаваны курс 11 рублёў 76 капеек за долар. Абменныя пункты таксама выйшлі пры продажы долара за рамкі 10 рублёў. Нягледзячы на высокі кошт СКВ, як адзначаюць эксперты, попыт усё роўна назіраецца. Гэта сведчыць аб тым, што ў суседняй дзяржаве людзі рыхтуюцца да горшага і давер да рубля з кожным днём падае.**

Тое, што адбываецца з беларускім рублём, у вочы кідаецца менш. Адзіны курс, які ўстанаўліваецца на таргах Міжбанкаўскай валютнай біржы і друкуецца ў СМІ, больш чым заспакойвае. Лёгкае прасоўванне беларускага рубля ў адносінах да долара ўніз не дае падстаў для хвалявання. Карціна, якая складваецца пасля наведвання абменных пунктаў, таксама вялікага песімізму не выклікае: там продаж долара знаходзіцца на ўзроўні 60 тысяч. Іншая справа, што сам наяўны долар якраз-такі там і адсутнічае. Наколькі рэальна ў «абменніку» сёння набыць валюту, лепш запытацца ў змардаваных чаканнем паступлення СКВ людзей. Напрыклад, неаднаразова прыходзілася, ідучы на працу, сустракаць старых, якія ўжо занялі пост ля ўваходу ў пункт. Вечарам нічога не мяняецца: тыя ж твары, на якіх вялікая радасць адсутнічае.

Адзінае выйсце ў такіх умовах — ісці «на паклон» да прыватных гандляроў валютай. Вось тут і наступае «азарэнне»: афіцыйны курс здаецца цудоўнай казкай у параўнанні з прапановамі «чорнага рынку». Там лічбы астранамічныя. Скупка долара, напрыклад, вядзецца па 80-81 тысячы рублёў, продаж завіс у сярэднім на 84 тысячах. А што рабіць? — купляюць. Стаўшы міжвольным сведкам падобнага абмену, я на некалькі хвілін «запісаўся» ў субяседнікі да мяняйлы, каб што-небудзь выпытаць. Заўважу, цёплай нашу гутарку ніяк не назавеш. Грошы, якія зараз «робяцца» на забароненым законам рынку, да шчырасці не схіляюць. Як, дарэчы, і магчымасць трапіць у рукі супрацоўнікаў МУС.

Бадай, самым цікавым, што пачуў з вуснаў валютчыка, гэта тое, што, нягледзячы на вялікую маржу (розніца паміж скупкай і продажам), прадаюць СКВ яны неахвотна. Паспрабаваў пераканаць мяне субяседнік і ў тым,

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## ДАПАМОГА ПА БЕСПРАЦОЎЮ ДЛЯ ВЫПУСКНІКОЎ ДАСЯГНУЛА 300-ТЫСЯЧНАЙ МЯЖЫ

**Згодна з пастановай урада, з 1 кастрычніка значна павялічваюцца дзяржаўныя дапамогі па беспрацоўю і стыпендыі грамадзянам, якія праходзяць прафесійную падрыхтоўку (павышаюць кваліфікацыю) па накіраванню Дзяржаўнай службы занятасці.**

Па словах начальніка юрыдычнага аддзела камітэта па занятасці Аляксандра Барысава, сёння дапамогу ад дзяржавы атрымліваюць 41.068 чалавек. Сярэдні памер дапамогі ў ліпені склаў 334 тысячы 200 рублёў. З пачатку года прайшлі прафесійную падрыхтоўку па накіраванню Дзяржаўнай службы занятасці 15 тысяч 274 чалавекі. Усяго сёлета, па стану на 1 жніўня, з дапамогай камітэта знайшлі працу 95.494 чалавек. Памер дапамогі па беспрацоўю для кожнага асобнага грамадзяніна будзе розны. Але, нягледзячы на гэта, з 1 кастрычніка памер дзяржаўнай дапамогі павялічыцца для ўсіх катэгорый беспрацоўных у 1,4 раза. Так, напрыклад, тыя, хто ўпершыню шукае працу і ў каго стаж працы меней 1 года, з 1 кастрычніка будуць атрымліваць дапамогу на працягу 13 тыдняў у памеры 297.500 рублёў (раней было 212.500). Наступныя 13 тыдняў такія беспрацоўныя будуць атрымліваць дзяржаўную дапамогу ў памеры 245 тысяч рублёў (было 175 тысяч рублёў).

З 1 кастрычніка зменіцца і мінімальная стыпендыя для тых, хто праходзіць прафесійную падрыхтоўку. Памер яе будзе роўны 350 тысячам рублёў.

За 7 месяцаў года агульная сума дапамог па беспрацоўю, выдадзеных насельніцтву краіны, склала 99 млрд. 813,2 млн. рублёў.

**Сяргей КУРКАЧ.**



### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 2 ВЕРАСНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 59700 | 60300 | 33900 | 34250 | 6240 | 6310 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 60000 | 60500 | 34000 | 34350 | 6250 | 6330 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 59000 | 60500 | 33500 | 34300 | | | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 50300 | | 28596.94 | | 4650 | | Курс на 03.09.1998 |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

### УСМІХНЕМСЯ




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

*Ідуць два п'яніцы па вуліцы і адзін другому кажа:*
*—Б'ёмся аб заклад, што першае слова маёй жонкі, калі яна мяне ўбачыць, будзе «сонейка».*
*— Ды ты на сябе глянь — п'яны, брудны...*
*— Б'ёмся аб заклад!*
*— Ды я тваю жонку ведаю — ведзьма...*
*— І усё ж!!!*
*— Добра.*
*Прыходзяць да яго дамоў.*
*— Сонейка, адчыні нам дзверы.*
*— Сонейка!!! Каб ты здох, сабака п'яны!*

***

*У рэстаране:*
*— Афіцыянт, у мяне у супе муха.*
*— А за такую цану вы хацелі б там бачыць барана?*

# ДЗЯРЖАВА І Ў ДАЛЕЙШЫМ БУДЗЕ ДАПАМАГАЦЬ...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

«Вырашэнне жыллёвых пытанняў вызначана Асноўнымі напрамкамі сацыяльна-эканамчнага развіцця нашай дзяржавы ў 1996 — 2000 гадах як прыярытэтнае, — сказаў прэзідэнт Беларусі. — Мы павінны дапамагчы чалавеку пабудаваць дом, кватэру і зрабіць усё, каб ён меў дах над галавой».

У ходзе абмеркавання пытання адзначалася, што на працягу 1996 — 1997 гадоў у рэспубліцы ўдалося не толькі прыпыніць зніжэнне, але і істотна нарасціць аб'ёмы будаўніцтва жылля, скараціць незавершаную вытворчасць у гэтай сферы. Абнадзейваюць і вынікі работы ў гэтым годзе. Дасягнуты рост аб'ёмаў уводу жылля не толькі ў гарадах, але і ў сельскай мясцовасці.

Асаблівую ролю пры гэтым, на думку Аляксандра Лукашэнкі, адыграла дзеючая ў краіне сістэма субсідзіравання грамадзян пры будаўніцтве, рэканструкцыі або куплі жылых памяшканняў, якая прадэманстравала сваю жыццяздольнасць і эканамічную эфектыўнасць. Калі ў 1996 годзе бясплатную субсідыю атрымалі 2566 сем'яў, то за сем месяцаў гэтага года — 3152 сям'і. Прадастаўляецца грамадзянам і дапамога ў выглядзе льготных крэдытаў. Выдзяленне такіх сродкаў, лічыць прэзідэнт, павінна праводзіцца ў першую чаргу для моладзі і вяскоўцаў. «Мы павінны павярнуцца тварам не толькі да вялікіх гарадоў, але і да гарадскіх пасёлкаў, вёсак», — падкрэсліў ён. Пры гэтым неабходна выкарыстоўваць не толькі субсідыі і льготныя крэдыты, але і асабістыя сродкі грамадзян, прадпрыемстваў.

Разам з тым на нарадзе было адзначана, што маюць месца факты нерацыянальнага выкарыстання дзяржаўных сродкаў, якія прадастаўляюцца ў форме льготных крэдытаў і субсідый для набыцця жылля. Пры праверках выяўлены выпадкі ўключэння выканкамамі ў спісы на атрыманне такіх сродкаў грамадзян, якія не маюць патрэбы ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Каб выключыць такое, у пачатку наступнага года ўдакладненыя спісы будуць апублікаваны.

Сярод галоўных праблем, якія яшчэ трэба будзе вырашыць жыллёваму будаўнічаму комплексу, — павышэнне якасці будаўніцтва, зніжэнне яго кошту, кадравае забеспячэнне галіны, асабліва ў вёсцы. Патрабуе далейшага развіцця і эфектыўнасць эксплуатацыі жылых дамоў, мадэрнізацыі старых пабудоў. Гэтаму сектару неабходна таксама ўдзяляць увагу, лічыць прэзідэнт. А набраныя тэмпы ў будаўніцтве жылля не толькі захаваць, але і прымножыць.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 426

## Аб унясенні змяненняў і дапаўнення ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 17 снежня 1996 г. № 555

1. Унесці ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 17 снежня 1996 г. № 555 «Аб некаторых дадатковых мерах па развіццю індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 35, арт. 942) наступныя змяненні і дапаўненне:

1.1. у пункце 3:

словы: «на 1997 год крэдытнай лініі на суму 400 млрд. рублёў» замяніць словамі : «крэдытных ліній на 1997 год на суму 400 млрд. рублёў і на 1998 — 2000 гады на суму 5 трлн. рублёў (у тым ліку на 1998 год - 1,4 трлн. рублёў)»;

словы: «гадавых па меры пагашэння названымі грамадзянамі крэдытаў і выплаты працэнтаў за карыстанне імі» замяніць словамі: «працэнтаў за карыстанне імі праз 2 гады пасля пачатку крэдытавання, але не пазней чым праз месяц пасля здачы дамоў у эксплуатацыю»;

1.2. у пункце 4:

у абзацы другім словы: «праз год пасля пачатку крэдытавання» замяніць словамі : «праз 2 гады пасля пачатку крэдытавання, але не пазней чым праз месяц пасля здачы дамоў у эксплуатацыю. Пагашэнне грамадзянамі запазычанасці па льготных крэдытах і выплату працэнтаў за карыстанне імі ажыццяўляць роўнымі долямі на працягу ўсяго перыяду пагашэння крэдытаў»;

дапоўніць пункт абзацам чацвёртым наступнага зместу:

«пры прадастаўленні крэдытаў на завяршэнне будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў грамадзянам, якія атрымалі льготныя крэдыты ў адпаведнасці з пастановамі Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27 сакавіка 1992 г. № 165 «Аб першачарговых мерах па развіццю індывідуальнага і кааператыўнага жыллёвага будаўніцтва ва ўмовах пераходу да рыначнай эканомікі» і ад 22 сакавіка 1993 г. № 169 «Аб змяненні і дапаўненні пастановы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27 сакавіка 1992 г. № 165», улічваць астаткавы кошт гэтага будаўніцтва з абавязковай праверкай мэтавага выкарыстання атрыманых крэдытаў».

2. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

*2 верасня 1998 г., г.Мінск.*

## ТОЛЬКІ ФАКТ

- На дарогах рэспублікі за восем месяцаў гэтага года работнікі ДАІ затрымалі 40 тысяч **п'яных вадзіцеляў**.
- Сёння ў нацыянальную **Чырвоную кнігу** Беларусі занесены 182 віды жывёл, 180 відаў раслін.
- Промысел рыбы у натуральных вадаёмах рэспублікі апошнім часам **скараціўся ўтрая:** замест 2,5 тысячы тон рыбы ў год з цяжкасцю вылоўліваецца 600—700 тон.

# На «чорным рынку» Беларусі перакананы...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

што наўрад ці адбудзецца адкат курса долара на «чорным рынку» назад.

— Паглядзі, што робіцца на міжбанку. Курс безнаяўнага долара там вагаецца ад 150 да 180 тысяч рублёў за долар. Курс наяўнага ў нас меншы больш чым у два разы. Навошта яго яшчэ і далей апускаць? Тым больш растыражавана паведамленне аб новай мінімалцы ў кастрычніку. Добра, што зараз курс у сярэднім трымаецца на 84 тысячах. А маглі «загнуць» і больш.

У тым, што маглі «загнуць», асабіста я не сумняваюся. Пасля вялікага расійскага ўзрушэння курс беларусага наяўнага рубля на «чорным рынку» ўпаў на 20 тысяч. Пераважная большасць тых, хто працуе там, сённяшнія лічбы лічаць рэальнымі. Іншая думка ў афіцыйных асоб. Аднак у «неафіцыйных» ёсць адна, але істотная перавага: яны трымаюць нос па ветры і ў стане задаволіць попыт на СКВ. Хто ў такім разе заказвае музыку?..

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# Узлёт цэн «апусціў» попыт на прамтавары

**У мяне (я гэта дакладна адчула), выцягнуўся твар, калі я ўбачыла цэннік на шампунь «Фрукціс» ў кіёску ля ўваходу на рынак стадыёна «Дынама», — 200 тысяч. Я ж такі нядаўна за 125 тысяч купіла. Гандлярка (відаць, не адна я задавала наіўнае пытанне «чаму?») адказала: «Што адбываецца ў Расіі, ведаеце? А мы адтуль тавар вязём».**

Асартымент рэчавага рынку «Дынама» не збяднеў: там па-ранейшаму можна набыць і лак для пазногцяў, і пыласос. Вось толькі натоўпы пакупнікоў істотна зменшыліся — так кажуць самі гандляры. Па прызнанню людзей з палатак, попыт на ўсе нехарчовыя тавары знізіўся напалову. А за арэнду заплаці, за ўваход заплаці... Пры разліках за рэчы ўчора панаваў курс 80 тысяч рублёў за долар. Крыху знізіўся, але гэта ні аб чым не сведчыць, кажуць самі ж гандляры. Збіваць курс не згаджаюцца — маўляў, гаспадар такі ўстанавіў.

На Камароўцы нехарчовыя тавары таксама цаной не радавалі. Але той жа шампунь «Фрукціс» чамусьці не каштаваў болей за 160 тысяч. Можа, на гэты мінскі рынак ён трапляе адразу з парыжскай лабараторыі?

З прамысловых тавараў на Камароўцы па-ранейшаму карыстаюцца попытам туалетнае мыла і такая ж папера. На астатнія прапановы рыначнага гандлю таксама адзначаецца зніжэнне попыту ў два разы.

Многія «чаўнакі», што атаварваюцца ў сталіцы, а маюць бізнес у правінцыі, пераарыентаваліся на харчовыя тавары. Ва ўсякім разе, нават той, хто прадукты ніколі не браў, цяпер аддае перавагу чыпсам, пячэнню ды чаю. Бо калі ад рэчы чалавек здольны адмовіцца, то есці яму хочацца заўсёды. Таму камароўскія гандляры макаронай, шпротамі і рыбай зніжэння попыту не адчулі. Хіба што аптавікі набываюць меншыя партыі. А асобныя пакупнікі бяруць традыцыйныя наборы прадуктаў.

Дарэчы, учора Камароўка здзівіла пакупнікоў зніжэннем цэн на 2-3 тысячы на шэраг прадуктаў. Імпартны алей патаннеў істотна, і практычна ўсюды бутэльку яго можна было набыць за 90 тысяч рублёў, хоць яшчэ раніцай гэтага дня на цэнніках значылася лічба 92. Зрэшты, ля адной машыны стаяла доўгая-доўгая чарга. Там прадавалі бутэлькі алею «Бролия» за 88 тысяч 500 рублёў.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# ТЭЛЕФОННАЯ РАЗМОВА А.Р.ЛУКАШЭНКІ І Н.А.НАЗАРБАЕВА

**Раніцай 2 верасня 1998 года па просьбе казахстанскага боку адбылася тэлефонная размова Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі з Прэзідэнтам Рэспублікі Казахстан Н.А.Назарбаевым.**

Як паведаміла прэс-служба кіраўніка беларускай дзяржавы, у час размовы прэзідэнты Беларусі і Казахстана абмеркавалі пытанні развіцця двухбаковых гандлёва-эканамічных адносінаў і разгледзелі ход рэалізацыі раней дасягнутых дамоўленасцяў. Адбыўся абмен думкамі па праблемах развіцця інтэграцыйных працэсаў у рамках мытнага саюза, заключанага Рэспублікай Беларусь, Расійскай Федэрацыяй, Рэспублікай Казахстан і Кыргызскай Рэспублікай, і ў СНД у цэлым.

Асаблівую ўвагу ў ходзе размовы прэзідэнты Беларусі і Казахстана ўдзялілі разгляду праблем сусветнага фінансавага крызісу, а таксама эканамічнай і палітычнай сітуацыі, якая склалася апошнім часам у Расійскай Федэрацыі. Пры гэтым прэзідэнт Беларусі падкрэсліў, што пераадоленне магчымых наступстваў сусветнага фінансавага крызісу для эканомік дзяржаў былога СССР павінна ажыццяўляцца на аснове сумесных узгодненых дзеянняў і, у першую чаргу, лідэраў дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

**БЕЛТА.**

# Мінсельгасхарч вырашыў дапамагчы сялянам бульбай

Аддзел па вытворчасці і гандлю плодаагароднінай прадукцыяй і бульбай Мінсельгасхарча днямі распрацаваў прапанову, згодна з якой грамадзянам з найбольш пацярпелых ад дажджоў раёнаў будзе выдзяляцца дапамога ў памеры 500 кілаграмаў бульбы на сям'ю. Згодна з прапановай, 50 працэнтаў сродкаў для гэтага будуць накіраваны з рэспубліканскага бюджэту, другую палову расходаў павінны аплаціць мясцовыя ўлады. На жаль, пакуль не вядома, які будзе механізм дапамогі на практыцы.

**Сяргей КУРКАЧ.**



# Беларусь стала 114 членам Руху недалучэння

**2 верасня на саміце краін Руху недалучэння ў горадзе Дурбане, Паўднёвая Афрыка, Рэспубліка Беларусь афіцыйна стала членам гэтага ўплывовага руху, які цяпер ахоплівае 114 краін свету.**

На пленарным паседжанні саміту выступіў міністр замежных спраў Беларусі Іван Антановіч, які заявіў, што наша краіна ганарыцца атрыманай магчымасцю быць новым членам Руху недалучэння.

— Для нас гэта вельмі важны момант і вялікі гонар,— сказаў Іван Антановіч удзельнікам саміта.— Мы цалкам падзяляем дэмакратычныя каштоўнасці Руху недалучэння і гатовыя разам працаваць дзеля дасягнення ўстойлівага развіцця, барацьбы з галечай, каб канструктыўна рашаць тыя праблемы, якія ставіць перад намі новае стагоддзе.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*Здарэнні*

# Ртутная «эпапея» працягваецца

**Ва ўчарашнім нумары «Звязда» паведамляла аб здарэнні, якое адбылося ў Гомелі. Напомнім, што там ля будынка адной з сярэдніх школ было знойдзена каля трох кілаграмаў сумесі, у якой галоўным кампанентам з'яўлялася ртуць. І вось новае здарэнне, праўда, на гэты раз у Мінску. Прычым зараз колькасць небяспечнага рэчава была куды большай.**

Як удалося высветліць, непрыемная знаходка была выяўлена а палове дзесятай раніцы каля дома № 49 па вуліцы Уманскай. Увагу людзей прыцягнуў поліэтыленавы пакет, дзе знаходзілася нейкая падазроная сумесь.

Работнікі штаба грамадзянскай абароны Маскоўскага раёна, якія выехалі на месца, канстатавалі,што ў пакеце — ртуць. Як аказалася, небяспечнага металу там было каля пяці кілаграмаў. Прадстаўнікамі штаба ртуць з месца здарэння вывезена. Пакуль невядома крыніца распаўсюджвання ртуці. Аднак спецыялісты адзначаюць той факт, што падобныя інцыдэнты ўсё часцей рэгіструюцца ў рэспубліцы, што не можа не выклікаць занепакоенасці.

**Ігар ГРЫШЫН.**

# Чытаць «Звязду» — прыемна



Любіць Наталля Іванаўна гатаваць на інтэрнацкай кухні, не выпускаючы з рук «Звязды»

Атрымаўшы прыз нашай латарэі — электрашынкоўку — міла-відная шчаслівая яго ўладальніца Наталля Іванаўна Малахава зазначыла:

— Працую на трактарным заводзе. Жывём сям'ёй з чатырох чалавек у пакойчыку інтэрната. Цеснавата, ды і на прыгатаванне ежы часу няшмат, таму звяздоўская «памочніца» будзе якраз да рэчы. Увогуле ж вашу газету я не выпускаю з рук і на кухні. Што ні кажы, а прыемна чытаць у сталіцы на нашай беларускай мове. І мамку ўспомніш, і родную вёску на Валожыншчыне, і настаўнікаў Гародзькаўскай школы, якія прывілі любоў да роднага слова. У нас два сыночкі. Сёлета яны пайшлі ў першы клас, і я спадзяюся, што не толькі я, але і настаўнікі будуць выхоўваць у іх павагу да ўсяго, што звязана са словам «Бацькаўшчына».

Мы падтрымалі надзею і пажадалі Наталлі Іванаўне разгарнуць першы нумар нашай газеты ў наступным годзе ва ўласнай кватэры.

**Віктар ХУРСІК.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | | | |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.20 | 19.57 | 13.37 |
| Віцебск – | 6.08 | 19.50 | 13.42 |
| Магілёў – | 6.09 | 19.47 | 13.38 |
| Гомель – | 6.11 | 19.39 | 13.28 |
| Гродна – | 6.37 | 20.10 | 13.33 |
| Брэст – | 6.39 | 20.10 | 13.31 |

### МЕСЯЦ

**Першая квадра 30 жніўня. З 17.04 – 13-я месяцавыя суткі. Месяц у сузор'і Казярога.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Вассы, Фадзея, Аўрамія**
**К. Ізабелы, Рыгора**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Вецер паўночна-усходні, слабы. Тэмпература паветра ў Мінску, Магілёве, Гомелі — 13-15, Віцебску, Гродне, Брэсце — 14-16 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў, толькі 4-га па ўсходу пройдуць кароткачасовыя дажджы. Вецер паўночны з пераходам на паўднёва-ўсходні, умераны. Тэмпература ўначы — 3-8, удзень 4-га — 13-18, 5-га — 15-20 градусаў вышэй нуля.

# ПРАФСАЮЗЫ РЫХТУЮЦЬ АКЦЫЮ ПРАТЭСТУ

**Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» загадчык сектара аналітычных даследаванняў Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Станіслаў КАЛАСОЎСКІ, прэзідыум ФПБ прыняў рашэнне рыхтаваць агульнанацыянальную акцыю пратэсту супраць далейшага зніжэння ўзроўню жыцця працоўных.**

З 34 арганізацый, якія ўваходзяць у федэрацыю, пра сваю гатоўнасць да гэтай акцыі заявілі пакуль што каля дзесятка галіновых прафесійных аб'яднанняў, у тым ліку буйнейшыя ў нашай краіне прафсаюзы работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання і радыёэлектроннай прамысловасці. Рэшта галіновых прафсаюзных аб'яднанняў папрасіла дадатковы дзесяцідзённы тэрмін для ўзгаднення пазіцый перад прыняццем канчатковага рашэння. Плануецца, што агульнабеларуская акцыя пройдзе ў пачатку лістапада, але не супадзе з рэвалюцыйным сёмым яго чыслом. Канчаткова дата акцыі будзе вызначана ў сярэдзіне верасня. Мяркуецца, што акцыя пройдзе ў большасці беларускіх гарадоў, яе форма будзе адвольна вызначацца на месцах, у Мінску ж ФПБ мае намер правесці масавы мітынг пратэсту на адной з цэнтральных плошчаў сталіцы.

Спачатку планавалася, што беларускія прафсаюзы правядуць сваю акцыю ў тым жа месяцы, што і расійскія — у кастрычніку, але ў ФПБ вырашана было яе перанесці, паколькі нядаўна ўрад Беларусі падняў мінімальную зарплату, і толькі ў лістападзе будзе зразумела, наколькі паўплывае гэта на дабрабыт працоўных. Да таго ж менавіта ў лістападзе грамадзяне адчуюць удар па сваіх кашальках ад новых тарыфаў на ацяпленне. Тым не менш, прадстаўнікі ФПБ упэўненыя, што расійская акцыя пратэсту акажа ўплыў і на актыўнасць беларускіх прафсаюзаў.

Галоўная крытыка ў час акцыі пратэсту беларускіх прафсаюзаў будзе накіравана ў адрас уладаў, паколькі менавіта яны праз падаткі, тарыфы, валютныя курсы і іншыя рычагі ўплываюць на эканамічную сітуацыю і таму павінны несці адказнасць за пагаршэнне жыццёвага ўзроўню грамадзян. Прафсаюзныя лідэры не здымаюць адказнасці і з кіраўнікоў канкрэтных прадпрыемстваў, але лічаць, што ў нашай дзяржаве, якая ў адрозненне ад суседніх па-ранейшаму моцна трымае ў сваіх руках эканоміку, усё вызначаецца цэнтральнымі ўладамі.

Станіслаў Каласоўскі таксама выказаў сваю занепакоенасць тым, што ўрадам нядаўна падрыхтаваны змяненні і дапаўненні ў Закон аб прафесійных саюзах, якія, на яго думку, моцна скарачаюць паўнамоцтвы прафесійных аб'яднанняў.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

***P.S.*** *Пракаменціраваць пазіцыю ўрада па ўзнімаемых прафсаюзамі праблемах «Звязда» папрасіла кіраўніка групы саветнікаў прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Івана Лемяшэўскага, інтэрв'ю з якім будзе апублікавана на нашых старонках у бліжэйшы час.*

*У росквіце творчых сіл сустракае свой юбілей вядомы беларускі гісторык, архівіст **Яўген БАРАНОЎСКІ**. Віншуючы свайго сталага аўтара, «Звязда» шчыра ўдзячная яму за адкрыццё многіх «белых плям» у жыццяпісе старэйшай беларускай газеты.*

*Шчырыя пажаданні добрага здароўя, сямейнага дабрабыту, згоды, радасці і шчасця ў жыцці **Віктару Вікенцьевічу ПРЫЁМКУ** з нагоды дня нараджэння.*

***Брат Дзмітрый з сям'ёй,** г. Стоўбцы.*

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Аб Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь і падпарадкаваных яму дзяржаўных органах

*Прыняты Палатай прадстаўнікоў 24 чэрвеня 1998 года*
*Адобраны Саветам Рэспублікі 30 чэрвеня 1998 года*

## ГЛАВА 1.
## Агульныя палажэнні

**Артыкул 1. Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь — Урад Рэспублікі Беларусь — цэнтральны орган дзяржаўнага кіравання Рэспублікі Беларусь**

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь — Урад Рэспублікі Беларусь з'яўляецца калегіяльным цэнтральным органам дзяржаўнага кіравання Рэспублікі Беларусь, які ажыццяўляе ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь выканаўчую ўладу ў Рэспубліцы Беларусь і кіраўніцтва сістэмай падпарадкаваных яму органаў дзяржаўнага кіравання і іншых органаў выканаўчай улады.

**Артыкул 2. Падсправаздачнасць Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у сваёй дзейнасці падсправаздачны Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь і адказны перад Нацыянальным сходам Рэспублікі Беларусь.

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь па меры неабходнасці, але не радзей аднаго разу ў квартал прадстаўляе Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь справаздачу аб сваёй дзейнасці.

**Артыкул 3. Дзейнасць Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь па забеспячэнню выканання Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, законаў Рэспублікі Беларусь, актаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у межах сваёй кампетэнцыі забяспечвае выкананне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, законаў Рэспублікі Беларусь, актаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, ажыццяўляе кантроль за іх выкананнем падпарадкаванымі яму органамі дзяржаўнага кіравання і іншымі органамі выканаўчай улады Рэспублікі Беларусь, фізічнымі і юрыдычнымі асобамі.

Не дапускаецца ажыццяўленне Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь паўнамоцтваў, прадастаўленых заканадаўствам Рэспублікі Беларусь Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнаму сходу Рэспублікі Беларусь, іншым дзяржаўным органам, якія не ўваходзяць у сістэму выканаўчай улады, за выключэннем выпадкаў, калі такія паўнамоцтвы дэлегаваны Ураду Рэспублікі Беларусь.

## ГЛАВА 2.
## Кампетэнцыя Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь

**Артыкул 4. Паўнамоцтвы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь па эканамічных пытаннях**

У межах Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, законаў Рэспублікі Беларусь, актаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь:

забяспечвае правядзенне адзінай эканамічнай, фінансавай, грашова-крэдытнай палітыкі;

рэгулюе дзейнасць усіх галін эканомікі Рэспублікі Беларусь, прымае меры па іх развіццю;

распрацоўвае прагнозы, канцэпцыі, дзяржаўныя праграмы эканамічнага і сацыяльнага развіцця Рэспублікі Беларусь, іншыя праграмы і забяспечвае іх рэалізацыю;

распрацоўвае асноўныя напрамкі развіцця эканомікі ў цэлым, яе асобных галін, прымае меры па паскарэнню навукова-тэхнічнага прагрэсу;

распрацоўвае асноўныя напрамкі ўнутранай і знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь і прымае меры па іх рэалізацыі;

прымае меры па забеспячэнню аптымальных тэмпаў развіцця вытворчасці, росту нацыянальнага даходу і яго рацыянальнага размеркавання;

ажыццяўляе рэформы, накіраваныя на стабілізацыю і інстытуцыяльныя пераўтварэнні эканомікі;

выступае ад імя ўласніка ў адносінах да маёмасці, якая з'яўляецца ўласнасцю Рэспублікі Беларусь, арганізуе кіраванне дзяржаўнай уласнасцю;

мае права ствараць, рэарганізоўваць, ліквідаваць прадпрыемствы, арганізацыі, установы, аб'яднанні, маёмасць якіх знаходзіцца ва ўласнасці Рэспублікі Беларусь;

садзейнічае інтэграцыі эканомікі Рэспублікі Беларусь і эканомікі іншых дзяржаў з улікам інтарэсаў Рэспублікі Беларусь, уносіць адпаведныя прапановы Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь і ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь;

устанаўлівае эканамічную адказнасць суб'ектаў гаспадарання за парушэнне парадку ажыццяўлення гаспадарчай дзейнасці, калі гэта адказнасць не была ўстаноўлена законамі Рэспублікі Беларусь і актамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

у межах паўнамоцтваў, прадастаўленых Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, рэгулюе знешнеэканамічную дзейнасць, у тым ліку вызначае меры тарыфнага і нетарыфнага рэгулявання ўвозу (вывазу) тавараў (работ, паслуг) на тэрыторыю (з тэрыторыі) Рэспублікі Беларусь, забяспечвае прыцягненне замежных інвестыцый;

стварае ўмовы для свабоднага прадпрымальніцтва на аснове раўнапраўя ўсіх форм уласнасці;

ажыццяўляе адзіную дзяржаўную палітыку ў галіне выкарыстання і аховы зямель, у межах сваіх паўнамоцтваў праводзіць адабранне і прадастаўленне зямельных участкаў;

каардынуе інвестыцыйную дзейнасць з улікам прыярытэтных напрамкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця дзяржавы;

вызначае дзяржаўную антыманапольную палітыку і рэалізуе меры па дэманапалізацыі эканомікі;

забяспечвае стварэнне неабходных дзяржаўных рэзерваў і іх захаванне;

забяспечвае развіццё агульнадзяржаўнай інфраструктуры (аўтамабільныя дарогі, сеткі сувязі, паветраныя і чыгуначныя лініі, сістэмаўтваральныя лініі электраперадачы і г.д.);

прымае рашэнне па ўзгадненню размяшчэння новаствараемых ці рэканструкцыі дзеючых прадпрыемстваў, якія маюць агульнадзяржаўнае значэнне;

вызначае дзяржаўную страхавую палітыку;

ажыццяўляе меры па арганізацыі адзінай сістэмы ўліку і статыстыкі;

забяспечвае стварэнне і функцыянаванне сістэмы стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі;

забяспечвае фарміраванне і правядзенне дзяржаўнай палітыкі ў галіне аховы права прамысловай уласнасці;

забяспечвае правядзенне адзінай дзяржаўнай палітыкі ў галіне развіцця тэрыторый;

забяспечвае правядзенне адзінай дзяржаўнай палітыкі ў галіне выкарыстання і эканоміі энергетычных і матэрыяльных рэсурсаў, прымае меры па забеспячэнню Рэспублікі Беларусь гэтымі рэсурсамі;

рэгулюе пытанні ўнутранага дзяржаўнага доўгу;

штогод распрацоўвае і прадстаўляе Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь для ўнясення ў Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь праект рэспубліканскага бюджэту і справаздачу аб яго выкананні;

прадастаўляе ў парадку, устаноўленым Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, урадавыя гарантыі;

распрацоўвае і ажыццяўляе меры па правядзенню адзінай дзяржаўнай палітыкі цэн і тарыфаў, удасканаленню сістэмы цэн і тарыфаў;

зыходзячы з галоўных напрамкаў адзінай дзяржаўнай грашова-крэдытнай палітыкі, вызначае меры па забеспячэнню збалансаванасці грашовых даходаў і расходаў насельніцтва, паляпшэнню фінансавага стану галін эканомікі і выкарыстанню крэдытных рэсурсаў, а таксама сумесна с Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь рэгулюе абменны курс беларускага рубля;

забяспечвае прыцягненне, размеркаванне і выкарыстанне крэдытаў, якія фарміруюць знешнюю запазычанасць Рэспублікі Беларусь;

вызначае дзяржаўную палітыку ў галіне абароны правоў спажыўцоў;

ажыццяўляе ўзаемадзеянне з Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь, у тым ліку мае права атрымліваць статыстычную і іншую інфармацыю аб дзейнасці банкаў;

прымае меры па рэалізацыі грамадзянамі Рэспублікі Беларусь права на працу, гэта значыць права на выбар прафесіі, роду заняткаў і работы ў адпаведнасці з прызваннем, здольнасцямі, адукацыяй, прафесійнай падрыхтоўкай і з улікам грамадскіх патрэбнасцей, а таксама на здаровыя і бяспечныя ўмовы працы;

распрацоўвае і ажыццяўляе меры па рацыянальнаму размяшчэнню прадукцыйных сіл, правядзенню ў жыццё адпаведнай палітыкі народанасельніцтва;

ажыццяўляе меры па фарміраванню і ўдасканаленню матывацыйнага механізму працоўнай актыўнасці, узмацненню ролі матэрыяльных і маральных стымулаў у павышэнні эфектыўнасці і якасці працы;

ажыццяўляе адзіную дзяржаўную палітыку, накіраваную на забеспячэнне поўнай і эфектыўнай занятасці працаздольнага насельніцтва, у тым ліку за кошт удасканалення галіновай структуры народнай гаспадаркі і тэрытарыяльнага размяшчэння прадукцыйных сіл;

устанаўлівае мінімальны памер заработнай платы, а таксама ў межах сваіх паўнамоцтваў вызначае формы, сістэмы і памеры аплаты працы работнікаў дзяржаўных устаноў;

вызначае дзяржаўную міграцыйную палітыку;

распрацоўвае і ажыццяўляе меры па ўдасканаленню працоўных адносін;

арганізуе і каардынуе работу па вывучэнню і распрацоўцы нарматываў спажывецкіх бюджэтаў для розных сацыяльна-дэмаграфічных груп насельніцтва;

распрацоўвае асноўныя напрамкі жыллёвай палітыкі;

распрацоўвае і рэалізуе праграмы забеспячэння насельніцтва прадуктамі харчавання, жыллёва-камунальнымі, бытавымі, гандлёвымі і іншымі паслугамі;

забяспечвае правядзенне адзінай дзяржаўнай палітыкі ў галіне аплаты працы;

забяспечвае эканамічную самастойнасць Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 5. Паўнамоцтвы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у сацыяльна-культурнай сферы**

У межах Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, законаў Рэспублікі Беларусь, актаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь:

забяспечвае правядзенне адзінай дзяржаўнай палітыкі ў галіне навукі, культуры, адукацыі, аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння;

стварае ўмовы для падтрымання ўстаноўленага заканадаўствам Рэспублікі Беларусь узроўню сацыяльнага забеспячэння;

прымае меры па забеспячэнню сацыяльнай абароны грамадзян, удасканальвае сістэму сацыяльнай абароны;

прымае меры па ўдасканаленню сістэмы прафесійнай арыентацыі, стварае ўмовы для атрымання прафесійна-тэхнічнай адукацыі, навучання новым спецыяльнасцям, перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі з улікам грамадскіх і вытворчых патрэбнасцей;

прымае меры па папярэджанню інваліднасці і арганізацыі рэабілітацыі інвалідаў;

вызначае і рэалізуе найбольш эфектыўныя шляхі павышэння даходаў сям'і, стыпендый, пенсій, іншых сацыяльных дапамог, выплат;

распрацоўвае і ажыццяўляе сацыяльна-эканамічныя меры па паляпшэнню становішча жанчын, умацаванню і падтрымцы сям'і, забяспечвае кантроль за захаваннем прадастаўленых жанчынам правоў і гарантый;

ажыццяўляе меры па фарміраванню і рэалізацыі дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі;

прымае меры па развіццю і ўмацаванню сеткі дзяржаўных агульнаадукацыйных, прафесійна-тэхнічных, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў;

забяспечвае правядзенне дзяржаўнай палітыкі ў галіне забеспячэння санітарна-эпідэмічнага дабрабыту насельніцтва, асноўных напрамкаў развіцця і ўдасканалення сістэмы аховы здароўя, прымянення ў гэтай сферы новых метадаў кіравання;

садзейнічае развіццю фізічнай культуры і спорту;

ажыццяўляе меры па развіццю і паляпшэнню работы ўстаноў культуры, архіўных устаноў, забяспечвае ахову гісторыка-культурнай спадчыны, рэстаўрацыю і кансервацыю помнікаў, памнажэнне і шырокае выкарыстанне культурных каштоўнасцей, у тым ліку народнай творчасці, для дзяржаўнага і эстэтычнага выхавання грамадзян, павышэння іх культурнага ўзроўню, а таксама садзейнічае развіццю прафесійнага мастацтва, літаратуры, нацыянальнага кнігавыдання і перыядычнага друку;

стварае ўмовы для свабоднага развіцця культуры ўсіх нацыянальных супольнасцей, якія пражываюць у Рэспубліцы Беларусь;

праводзіць дзяржаўную палітыку, накіраваную на захаванне і развіццё беларускай і рускай моў, стварэнне належных умоў для развіцця моў іншых нацыянальных супольнасцей, якія пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;

прымае меры па забеспячэнню права грамадзян Рэспублікі Беларусь на свабоду веравызнанняў;

забяспечвае правядзенне адзінай навукова-тэхнічнай дзяржаўнай палітыкі;

прымае меры па развіццю навуковага патэнцыялу Рэспублікі Беларусь, павышэнню эфектыўнасці яго выкарыстання, больш шырокаму прымяненню на практыцы вынікаў навуковых даследаванняў, вынаходніцтва і рацыяналізатарства;

удасканальвае эканамічны механізм садзейнічання паскарэнню навукова-тэхнічнага прагрэсу, павышэння тэхнічнага ўзроўню і якасці прадукцыі, стварэння высокаэфектыўных, экалагічна бяспечных тэхналогій;

вызначае дзяржаўную палітыку ў сферы забеспячэння аховы аўтарскага права і сумежных правоў;

ажыццяўляе меры па развіццю навуковых устаноў і арганізацый, па падрыхтоўцы навуковых кадраў;

каардынуе дзейнасць Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, галіновых дзяржаўных акадэмій.

**Артыкул 6. Паўнамоцтвы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у галіне аховы навакольнага асяроддзя**

У межах Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, законаў Рэспублікі Беларусь, актаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь:

вызначае дзяржаўную палітыку ў галіне аховы навакольнага асяроддзя, парадак выкарыстання прыродных рэсурсаў;

вызначае дзяржаўную палітыку ў галіне гідраметэаралагічнай дзейнасці;

ажыццяўляе меры па ахове, навукова абгрунтаванаму выкарыстанню прыродных рэсурсаў і паляпшэнню навакольнага асяроддзя;

вызначае дзяржаўную палітыку ў галіне забеспячэння тэхнічнай, ядзернай і радыяцыйнай бяспекі патэнцыяльна бяспечных аб'ектаў, папярэджання аварый і катастроф;

забяспечвае распрацоўку і рэалізацыю дзяржаўных экалагічных праграм;

зацвярджае пералік асабліва каштоўных прыродных рэсурсаў і аб'ектаў навакольнага асяроддзя;

вызначае парадак уліку і вядзення дзяржаўных кадастраў прыродных рэсурсаў, ажыццяўлення маніторынгу навакольнага асяроддзя;

прымае рашэнні аб стварэнні запаведнікаў, нацыянальных паркаў, заказнікаў і іншых асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторый рэспубліканскага значэння, зацвярджае палажэнні аб іх і іх межы;

зацвярджае парадак распрацоўкі экалагічных мерапрыемстваў, устанаўлення лімітаў выкарыстання прыродных рэсурсаў, размяшчэнне адходаў вытворчасці;

аб'яўляе ў неабходных выпадках асобныя ўчасткі тэрыторыі Рэспублікі Беларусь зонамі надзвычайнай экалагічнай сітуацыі;

арганізуе работы па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, іншых значных аварый і катастроф, а таксама стыхійных бедстваў;

забяспечвае правядзенне дзяржаўнай палітыкі ў галіне кіравання радыяцыйна забруджанымі тэрыторыямі і прымае меры па забеспячэнню бяспечных умоў пражывання на гэтых тэрыторыях;

распрацоўвае дзяржаўную праграму па пераадоленню вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС і прымае меры па яе рэалізацыі;

забяспечвае развіццё сістэмы экалагічнага выхавання і навучання грамадзян.

**Артыкул 7. Паўнамоцтвы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у галіне забеспячэння законнасці і правапарадку**

У межах Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, законаў Рэспублікі Беларусь, актаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь:

прымае меры па забеспячэнню правоў і свабод грамадзян, абароне інтарэсаў дзяржавы, ахове ўласнасці і грамадскага парадку, барацьбе са злачыннасцю;

забяспечвае гарантаваныя Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, законамі і прадугледжаныя міжнароднымі абавязацельствамі дзяржавы правы і свабоды грамадзян, абарону асобы ад любых праціпраўных дзеянняў, замахаў на жыццё, здароўе, маёмасць, гонар і годнасць, а таксама абарону грамадзяніна Рэспублікі Беларусь як на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, так і за яе межамі;

вызначае асноўныя напрамкі прававой работы ў органах дзяржаўнага кіравання;

кіруе ў межах сваёй кампетэнцыі дзейнасцю рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання па забеспячэнню правапарадку і законнасці, рэалізацыі дзяржаўных праграм барацьбы са злачыннасцю;

ажыццяўляе меры па прадухіленню стварэння і дзейнасці палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў і рэлігійных арганізацый, якія маюць на мэце насільнае змяненне канстытуцыйнага ладу ці вядуць прапаганду вайны, сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці, а таксама перашкаджаюць выкананню грамадзянамі іх дзяржаўных, грамадскіх, сямейных абавязкаў або наносяць шкоду іх здароўю і маральнасці.

**Артыкул 8. Паўнамоцтвы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у галіне забеспячэння нацыянальнай бяспекі і абараназдольнасці дзяржавы**

У межах Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, законаў Рэспублікі Беларусь, актаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь:

прымае меры па абароне нацыянальнай бяспекі і абараназдольнасці, незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь, акрамя ажыццяўляемых Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь або іншымі вызначанымі ім дзяржаўнымі органамі;

вырашае пытанні ваеннага будаўніцтва, забеспячэння Узброеных Сіл і іншых воінскіх фарміраванняў Рэспублікі Беларусь усім неабходным для надзейнай узброенай абароны рэспублікі, а таксама будаўніцтва і размяшчэння на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь абаронных аб'ектаў;

ажыццяўляе кантроль за падрыхтоўкай грамадзян да ваеннай службы і прызывам іх на ваенную службу, а таксама рэгламентуе воінскі ўлік прызыўнікоў і ваеннаабавязаных;

кіруе ў межах сваёй кампетэнцыі падрыхтоўкай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь да работы ў рэжыме і ўмовах ваеннага часу, а таксама яго мабілізацыйным разгортваннем;

уносіць на зацвярджэнне Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь мабілізацыйныя планы Рэспублікі Беларусь, планы накаплення матэрыяльных каштоўнасцей у мабілізацыйным рэзерве;

ажыццяўляе ў адпаведнасці са сваёй кампетэнцыяй кіраўніцтва грамадзянскай абаронай Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 9. Паўнамоцтвы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у галіне знешнепалітычнай дзейнасці**

У межах Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, законаў Рэспублікі Беларусь, актаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь:

ажыццяўляе каардынацыю дзейнасці ў галіне адносін Рэспублікі Беларусь з іншымі дзяржавамі і міжнароднымі арганізацыямі;

прымае практычныя меры па рэалізацыі і абароне знешнепалітычных інтарэсаў Рэспублікі Беларусь;

праводзіць перагаворы і заключае міжнародныя дагаворы па пытаннях, якія адносяцца да яго кампетэнцыі;

прымае меры па забеспячэнню выканання міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 10. Паўнамоцтвы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у галіне кадравай палітыкі**

У межах Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, законаў Рэспублікі Беларусь, актаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь:

распрацоўвае і ўносіць на разгляд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь прапановы па ажыццяўленню дзяржаўнай кадравай палітыкі, накіраванай на стварэнне неабходнага рэзерву высокапрафесійных кіруючых работнікаў сістэмы органаў дзяржаўнага кіравання, садзейнічае забеспячэнню іх падрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі;

каардынуе і кантралюе дзейнасць падпарадкаваных яму органаў дзяржаўнага кіравання і іншых органаў выканаўчай улады Рэспублікі Беларусь па ажыццяўленню кадравай палітыкі, стварэнню сістэмы бесперапыннага навучання кадраў;

удзельнічае ў фарміраванні кадравага рэестра Кіраўніка дзяржавы, стварае кадравы рэестр Урада Рэспублікі Беларусь.

**Артыкул 11. Іншыя паўнамоцтвы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь**

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь ажыццяўляе іншыя паўнамоцтвы, ускладзеныя на яго Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, законамі Рэспублікі Беларусь і актамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

## ГЛАВА 3.
## Кіраўніцтва Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь дзейнасцю рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання

**Артыкул 12. Сістэма рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, падпарадкаваных Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь**

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь кіруе сістэмай падпарадкаваных яму рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, каардынуе, накіроўвае і кантралюе іх работу.

У сістэму рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, падпарадкаваных Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, уваходзяць міністэрствы Рэспублікі Беларусь, дзяржаўныя камітэты Рэспублікі Беларусь, камітэты пры міністэрствах (дзяржаўных камітэтах) Рэспублікі Беларусь, акрамя органаў, падпарадкаваных непасрэдна Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь.

Міністэрства Рэспублікі Беларусь — рэспубліканскі орган дзяржаўнага кіравання Рэспублікі Беларусь (функцыянальны або галіновы), які праводзіць дзяржаўную палітыку, ажыццяўляе рэгуляванне і кіраванне ў адпаведнай сферы дзейнасці і каардынуе дзейнасць у гэтай сферы іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання Рэспублікі Беларусь.

Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь — рэспубліканскі орган дзяржаўнага кіравання Рэспублікі Беларусь, які праводзіць дзяржаўную палітыку, ажыццяўляе рэгуляванне і кіраванне ў адпаведнай сферы дзейнасці.

Камітэт пры міністэрстве (дзяржаўным камітэце) Рэспублікі Беларусь — рэспубліканскі орган дзяржаўнага кіравання Рэспублікі Беларусь, які дзейнічае пад непасрэдным кіраваннем адпаведнага міністэрства (дзяржаўнага камітэта) і ажыццяўляе спецыяльныя функцыі (выканаўчыя, кантрольныя, рэгулюючыя і іншыя) у адпаведных сферах ведання.

Міністэрствы, дзяржаўныя камітэты, камітэты пры міністэрствах (дзяржаўных камітэтах) нясуць адказнасць перад Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, а камітэты пры міністэрствах (дзяржаўных камітэтах) — таксама і перад адпаведным міністэрствам (дзяржаўным камітэтам) за выкананне ўскладзеных на іх задач, арганізацыю работы падпарадкаваных ім прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў і аб'яднанняў.

Асобныя міністэрствы і дзяржаўныя камітэты ў межах і парадку, прадугледжаных Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, падпарадкоўваюцца непасрэдна Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь.

Рэспубліканскія органы дзяржаўнага кіравання з'яўляюцца юрыдычнымі асобамі. Міністэрствы і дзяржаўныя камітэты, камітэты пры міністэрствах (дзяржаўных камітэтах) Рэспублікі Беларусь утвараюцца, рэарганізуюцца і ліквідуюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

У мэтах рэалізацыі паўнамоцтваў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання ў адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінках Рэспублікі Беларусь могуць ствараца ва ўстаноўленым парадку іх тэрытарыяльныя органы.

Рэспубліканскія органы дзяржаўнага кіравання, падпарадкаваныя Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, іх тэрытарыяльныя органы ў межах сваёй кампетэнцыі выдаюць акты на аснове і ў мэтах выканання Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, законаў Рэспублікі Беларусь, актаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, пастаноў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, распараджэнняў Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, ажыццяўляюць кантроль за іх выкананнем.

Нарматыўныя акты рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, падпарадкаваных Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, прынятыя ў межах іх кампетэнцыі, якія датычацца не падведамных ім прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, аб'яднанняў, а таксама юрыдычных асоб, маёмасць якіх знаходзіцца ў прыватнай уласнасці, ці грамадзян, з'яўляюцца абавязковымі для выканання пры ўмове, калі гэтыя акты зарэгістраваны Міністэрствам юстыцыі Рэспублікі Беларусь. Дадзеныя акты з'яўляюцца абавязковымі для падведамных прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, аб'яднанняў і без указанай рэгістрацыі.

Міністры, кіраўнікі іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, падпарадкаваных Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, самастойна ў межах сваёй кампетэнцыі прымаюць рашэнні, нясуць персанальную адказнасць за выкананне адпаведнымі міністэрствамі, іншымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання ўскладзеных на іх задач і функцый, стан спраў у падведамных ім сферах кіравання і галінах эканомікі. Прававы статус міністраў, кіраўнікоў іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання Рэспублікі Беларусь вызначаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

У міністэрствах (іншых рэспубліканскіх органах дзяржаўнага кіравання), падпарадкаваных Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь, ствараюцца калегіі, у склад якіх уваходзяць міністры (кіраўнікі рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання) і іх намеснікі па пасадзе, а таксама іншыя работнікі адпаведных галін эканомікі або сфер кіравання. У склад калегій могуць уключацца работнікі падведамных прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, аб'яднанняў. Калегіі разглядаюць асноўныя пытанні развіцця адпаведных галін эканомікі або сфер кіравання, абмяркоўваюць іншыя пытанні дзейнасці міністэрстваў (іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання), падведамных ім прадпрыемстваў, арганізацый, аб'яднанняў і ўстаноў. Рашэнні калегій праводзяцца ў жыццё загадамі міністраў (кіраўнікоў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання).

У выпадку ўзнікнення рознагалоссяў паміж міністрам (кіраўніком рэспубліканскага органа дзяржаўнага кіравання) і членамі калегіі пры абмеркаванні пытанняў і прыняцці рашэнняў міністр (кіраўнік рэспубліканскага органа дзяржаўнага кіравання) праводзіць у жыццё сваё рашэнне і паведамляе аб гэтым у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, а члены калегіі маюць права інфармаваць Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь аб сваёй пазіцыі.

**Артыкул 13. Кампетэнцыя рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, падпарадкаваных Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь**

Міністэрствы і дзяржаўныя камітэты ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь:

рэгулююць работу прадпрыемстваў, арганізацый, аб'яднанняў і ўстаноў усіх форм уласнасці, прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, па пытаннях сваёй кампетэнцыі;

ажыццяўляюць кіраванне дзейнасцю падведамных прадпрыемстваў, арганізацый, аб'яднанняў і ўстаноў, у тым ліку ствараюць, ліквідуюць і рэарганізуюць прадпрыемствы, арганізацыі, аб'яднанні і ўстановы ў парадку, вызначаным заканадаўствам;

заключаюць кантракты з кіраўнікамі падведамных прадпрыемстваў, арганізацый, аб'яднанняў і ўстаноў;

валодаюць, карыстаюцца і распараджаюцца дзяржаўнай маёмасцю, якая знаходзіцца на іх балансе;

ствараюць мэтавыя фонды;

распрацоўваюць эканамічныя нарматывы эфектыўнасці гаспадарання падведамных прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый, праводзяць адзіную эканамічную палітыку ў адпаведнай галіне для адпрацоўкі гэтых нарматываў, забяспечваюць кантроль за іх прымяненнем;

праводзяць дзяржаўную кадравую палітыку, накіраваную на камплектаванне ўласнага цэнтральнага апарату, падведамных арганізацый і ўстаноў высокакваліфікаванымі спецыялістамі, забяспечваюць падбор і расстаноўку гэтых спецыялістаў, фарміруюць у межах сваёй кампетэнцыі кіруючы кадравы склад адпаведнай галіны і яго рэзерв, ствараюць галіновую сістэму бесперапыннага навучання кадраў, арганізуюць падрыхтоўку спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй;

**(Заканчэнне на 6-й стар.)**

**Неад'емнай часткай жыцця ў Ашмянах, з'яўляецца работа Ашмянскай мытні. Як і заўсёды здараецца, дзейнасць пэўнай структуры, першачарговай задачай каторай з'яўляецца абарона дзяржаўных інтарэсаў, ахутана ўсялякімі таямніцамі. Вось і думаюць-гадаюць радавыя грамадзяне, што ж гэта за служба такая — мытная. За ўсю структуру адказваць не будзем і адзнак нікому выстаўляць не збіраемся.**

# Рэканструкцыя мытнага паста «Каменны Лог» дазволіць павялічыць прапускную здольнасць да 2060 аўтамабіляў у суткі

А вось некаторы штрышок у партрэт беларускіх мытнікаў паспрабуем унесці. Найперш — вуснамі начальніка Ашмянскай мытні Аляксандра Уладзіміравіча ПЫЖЫКА:

— Па-першае, я хацеў бы заўважыць наступную акалічнасць. Прынята рашэнне Прэзідэнта краіны «Аб рэарганізацыі Ашмянскай мытні і ліквідацыі Астравецкай мытні». Згодна гэтага з 6 красавіка ўведзены новы штатны расклад. Таксама, безумоўна, пашырана зона нашай дзейнасці.



• Супрацоўнікі мытні Лілія Осцік, Іван Матвейчык, Мікалай Місуна, Віктар Буцянаў

**— Якую тэрыторыю зараз абслугоўвае Ашмянская мытня?**

— Пад нашым кантролем знаходзяцца тры раёны — Ашмянскі, Астравецкі і Смаргонскі. На мытні функцыяніруе 7 пунктаў мытнага кантролю і афармлення кругласутачна непасрэдна на граніцы. Міжнародныя пункты мытнага афармлення «Каменны Лог» і «Катлоўка» ажыццяўляюць пропуск і афармленне грузаў і аўтатранспартных сродкаў, міжнародныя мытныя пасты «Ложа» і «Клявіца» кантралююць перамяшчэнне легкавога аўтатранспарту і асабістай маёмасці грамадзян Рэспублікі Беларусь і Літоўскай Рэспублікі. У зоне дзейнасці мытні знаходзіцца і чыгуначны пункт мытнага афармлення «Гудагай», які ажыццяўляе кантроль за праходжаннем пасажырскіх цягнікоў.

За сем мінулых месяцаў афармлена на Ашмянскай мытні 73.760 грузавых аўтамабіляў. Яны перавезлі звыш 697 тысяч тон грузаў. Прапушчана праз усе нашы аб'екты 185.448 адзінак легкавога аўтатранспарту.

**— Гэта калі падзяліць на адны суткі...**

— У сярэднім за суткі праходзіць афармленне на мяжы на ўезд у Рэспубліку Беларусь 1332 аўтамабілі.

**— А на выезд?**

— А на выезд — 1020.

**— Дарэчы, як вы мяркуеце, ці шмат набываюць нашы грамадзяне ў Літве аўтамабіляў?**

— Пра нейкія тэндэнцыі я не хацеў бы гаварыць. Дзеля таго, каб рабіць вывады, патрэбная інфармацыя шмат шырэйшая. Але мяркуйце самі: за тыя ж сем месяцаў Ашмянскай мытняй афармлена 31.134 аўтамабілі, якія набыты за мяжою і якія ўвозяць фізічныя асобы Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі.

Займаемся мы таксама мытнымі плацяжамі, абагульненнем і перадачай статыстычных дадзеных, кантролем за дастаўкай тавараў, якія накіроўваюцца на тэрыторыю Мытнага Саюза і за яго межы, выяўленнем і спыненнем адміністрацыйных мытных правапарушэнняў і кантрабанды.

**— Ці шмат такіх прыкладаў?**



• Будаўніцтва новага аб'екта

— Прасцей сказаць пра маштабы. Сёлета на мытных пастах і па-за пунктамі мытнага афармлення выяўлена 536 фактаў адміністрацыйных правапарушэнняў на суму 117 млрд. рублёў, заведзена 12 крымінальных спраў па фактах кантрабанды.



• Бясконцы паток машын

Словам, мытнікам спаць у шапку не даводзіцца. Дарэчы, не лішнім будзе назваць і такія абсягі іх дзейнасці. У даход дзяржавы пералічана 285 млрд. 795 млн. рублёў. З іх мытныя плацяжы з фізічных асоб склалі 99 млрд. 763 млн. рублёў і 1 млн. 300 тыс. 262 долары ЗША. Як бачым, мытня зарабляе для дзяржавы грошы. Значны прыбытак прыносіць рэалізацыя так званага «канфіската» — тых тавараў, якія спрабавалі незаконна правезці праз мяжу. Шкада вось толькі, што грошы ад рэалізацыі зусім, нават у невялікай працэнтнай частцы не паступаюць у мясцовы бюджэт. Праблем жа, патрабуючых значнага ўкладання сродкаў, на Ашмяншчыне хапае.

Сёння ашмянскія мытнікі (сродкі на вырашэнне гэтай праблемы паступаюць і з расійскага боку) занятыя рэканструкцыяй мытных пастоў «Каменны Лог» і «Катлоўка». Увод новага аб'екта прадугледжаны ў снежні 1999 года. Плошча пункта мытнага дагляду пры гэтым павялічыцца да 8,56 гектараў. А прапускная здольнасць будзе роўнай 2060 аўтамабілям за суткі (зараз — толькі 1000 адзінак тэхнікі). Будаўніцтва, увесь працэс рэканструкцыі знаходзіцца пад пільным кантролем урада. Неаднойчы на аб'екце бываў віцэ-прэм'ер Леанід Козік. Адзнака арганізацыйным захадам ашмянскіх мытнікаў з яго боку прагучала самая станоўчая.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# «ВІВАТ, СТУДЭНТ!»



Фота IREX/ProMedia.

**Такую назву атрымала студэнцкае свята, прысвечанае Дню ведаў. Яно адбылося 1 верасня на сталічнай плошчы Незалежнасці. Ідэю правесці грандыёзную тусоўку аддзелу па справах моладзі Мінскага гарвыканкама «падкінуў» Беларускі дзяржаўны універсітэт, для якога такія мерапрыемствы сталі ўжо традыцыйнымі. Праграма атрымалася вельмі насычанай. Акрамя прывітальных слоў рэктара сталічнай «альма матэр» госці ўбачылі і пачулі тэатралізаваны спектакль, вялікую канцэртную праграму. Адбыўся рытуал пасвячэння ў студэнты. Вечарам плошча Незалежнасці ператварылася ў танцавальную пляцоўку, на якой да позняга вечара танцавала і спявала студэнцкая моладзь.**

**Аксана АСПІШЧАВА, БЕЛТА.**

# ДАЖДЖЫ БЕЗ ПЕРАПЫНКУ

**Ні пра які графік уборачнай кампаніі на Магілёўшчыне сёння казаць ужо нельга, лічаць у абласным камітэце па сельскай гаспадарцы і харчаванню. З-за складаных пагодных умоў большасць сельскіх раёнаў і гаспадарак вобласці прастойваюць.**

— Я нават і не прыпомню падобнага складанага жніва з-за дрэннага надвор'я, — дзеліцца сваімі думкамі галоўны аграном Магілёўскага аблсельгасхарча Ірына Бако. — Летась таксама было нясоладка з пагоднымі ўмовамі, але ўсё ж не так дрэнна, як сёлета. Сёння размаўляла з Хоцімскім раёнам, дык там дождж ідзе без перапынку ўжо пяць дзён, усё заліта, камбайны не могуць трапіць на палеткі... Лічу, што ў такой сітуацыі кіраўнікі гаспадарак робяць усё магчымае, а да таго ж праводзяць падрыхтоўчыя работы і да асенняй сяўбы: рыхтуюць глебу, уносяць арганіку, робяць ачыстку насення.

Згодна з інфармацыяй на 1 верасня, у Магілёўскай вобласці ўбрана 66 працэнтаў пасяўных плошчаў, сярэдняя ўраджайнасць — амаль 22 цэнтнеры з гектара. Для параўнання — леташнія паказчыкі: 85 працэнтаў і 27 цэнтнераў з гектара адпаведна. Дзяржзаказ Магілёўскай вобласці — 260 тысяч тон збожжа — пакуль не выкананы, здадзена на 31 жніўня 150 тысяч тон.

У вобласці спісана 50 тысяч гектараў, ці 12 працэнтаў пасяўных плошчаў. Будуць спісваць яшчэ больш, а на наступным тыдні аблсельгасхарч плануе правесці расчыстку, бо ў хуткім часе трэба сеяць азімыя: тое, што не прапала, не загінула, — убраць на збожжа і кармы, а там, дзе апошнія магчымасці страчаны, — плошчы падлягаюць заворванню.

Летась у Магілёўскай вобласці, нават пасля ўборачнай кампаніі, было нямала скандалаў з няўбранымі прыватнымі надзеламі сялян. А хадакі з раёнаў звярталіся і ў аблсельгасхарч, і ў мясцовыя сродкі масавай інфармацыі са скаргамі на абыякавае стаўленне кіраўнікоў сельскіх гаспадарак да патрэб сялян. Сёлета, запэўніваюць у абласным камітэце па сельскай гаспадарцы, такіх праблем не ўзнікала — ва ўсякім разе, пакуль. Леташнія разборы па прыватных надзелах далі плён, хаця і сёлета сялян папрасілі зжаць збожжавыя самастойна, але з абяцаннем, што дзяржаўныя органы дапамогуць потым з абмалочваннем. Але тыя сяляне, якім усё ж такі патрэбна дапамога і ва ўборцы, могуць яе атрымаць на месцы, звярнуўшыся да адміністрацыі калгаса ці саўгаса, дзе імкнуцца разабрацца з кожным канкрэтным выпадкам — так каменціруюць сітуацыю спецыялісты Магілёўскага аблсельгасхарча.

**Ілона ІВАНОВА.**

*Крымінал*

## Каровы «ўлятучыліся» і дзялянка лесу — таксама

**У аператыўных зводках міліцыі іншым разам сустракаеш такія паведамленні, з якіх проста дзівішся.**

Напрыклад, на ферме аднаго з саўгасаў Светлагорскага раёна нехта ў адну з начэй украў дзвюх кароў і чатырох бычкоў, а з фермы саўгаса «Дварэц» Рагачоўскага раёна зніклі дзве каровы (іх таксама ўкралі).

Або яшчэ. З лясных угоддзяў, што паблізу вёскі Чыркавічы Светлагорскага раёна, некуды «ўлятучылася» цэлая дзялянка лесу: нехта высек і вывез 150 кубаметраў драўніны.

Дык вось, самае дзіўнае ва ўсіх гэтых прыкладах не памеры крадзяжоў, а тое, што на фермах працавалі вартаўнікі (дакладней, яны лічыліся ў штаце іхніх работнікаў), а ў лесе ёсць ляснік. Як яны аднесліся да сваіх службовых абавязкаў — таксама дзіўна. Бо крадзяжы імі былі выяўлены толькі... праз паўмесяца. Дык як пры такой «аператыўнасці» паведамленняў у міліцыю знайсці тых зладзеяў?

## Няўлоўныя «мсціўцы»?

**Інакай як помстай гэта не назаеш. Мяркуйце самі.**

Нехта ноччу зрабіў падкоп пад гараж начальніка адной з дарожна-будаўнічых арганізацый Гомельшчыны. Думаеце, для таго, каб угнаць шыкоўную іншамарку? Зусім не. Для таго, каб садраць з яе фарбу. Што і было зроблена.

У другім выпадку пацярпеў адзін са следчых Жлобінскага ГРАУС. Невядомы ўгнаў яго легкавушку і спаліў яе ў лесе за горадам. «Мсціўцаў» знайсці пакуль што не ўдалося.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# Саюзу палякаў Беларусі — 10 гадоў

**6 верасня 1988 года ў Гродне было створана польскае культурна-асветніцкае таварыства імя Адама Міцкевіча, якое праз два гады пераўтварылася ў Саюз палякаў Беларусі.**

На прэс-канферэнцыі з нагоды юбілею гэтай арганізацыі яе старшыня Тадэвуш Гавін назваў галоўнай мэтай саюза нацыянальнае адраджэнне палякаў у Беларусі праз адкрыццё польскіх школ, увядзенне польскай мовы ў беларускія і рускія школы, выданне польскамоўных газет і часопісаў. Першая польская школа адчынілася ў Гродне два гады таму, яшчэ адна цяпер будуецца ў Ваўкавыску. Цэнтры польскай культуры створаны ў Гродне, Лідзе, Баранавічах, Магілёве. Будаўніцтва такога цэнтра сёлета павінна закончыцца ў Шчучыне. У эфір абласнога тэлебачання выходзяць перадачы на польскай мове, у Гродне выдаецца польскамоўная газета. Яшчэ адна задача Саюза палякаў — навучанне беларускай моладзі ў ВНУ Польшчы. Пасля завяршэння вучобы, па словах спадара Гавіна, многія вярнуліся ў Беларусь, у прыватнасці, выкладаюць у польскай школе, працуюць у сумесных беларуска-польскіх фірмах.

Сярод праблем, якія сёння найбольш хвалююць Саюз палякаў, Тадэвуш Гавін адзначыў тое, што ў Беларусі не друкуюцца падручнікі на польскай мове, іх вымушаны прывозіць з Польшчы і Літвы. Акрамя таго, другі год не вырашаецца пытанне наконт будаўніцтва польскай школы ў Навагрудку.

Ніводны варыянт (будаўніцтва за кошт сродкаў беларускага бюджэту, польскага боку, недзяржаўная школа), паводле слоў Т. Гавіна, пакуль не ідзе далей перапіскі і дэбатаў з уладнымі структурамі.

Па гэтай прычыне Саюз палякаў не возьме афіцыйнага ўдзелу ва ўрачыстых мерапрыемствах, прысвечаных 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча, якія неўзабаве адбудуцца ў Навагрудку. Гэты юбілей саюз адзначыць адкрыццём помніка Міцкевічу каля сваёй сядзібы ў Гродне. Праводзяцца экскурсіі «Шляхам Міцкевіча». А яшчэ — прысвечаныя паэту чытанні, фестываль польскай песні...

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

## Лясная атрута

**Мала таго, што на Гомельшчыне ў абсалютнай большасці раёнаў грыбы ўтрымліваюць небяспечныя радыенукліды, дык некаторыя грамадзяне збіраюць іх без разбору. А ў выніку — бяда.**

Сёлета тут зарэгістравана ўжо звыш шасцідзесяці выпадкаў атручэння грыбамі. У чатырох з іх людзей ураташаваць не ўдалося — двух хлапчукоў з Рэчыцкага раёна і Светлагорска, мужчыну з Буда-Кашалёўскага раёна і жанчыну з абласнога цэнтра.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## Плачуць рабіны...

**...З-за таго, што некаторыя вінзаводы Гомельшчыны аб'явілі аб закупцы гэтых ягад.**

І людзі, асабліва дзятва і беспрацоўныя, кінуліся не толькі ў лясы і пералескі, дзе растуць гэтыя дрэвы, але і ў гарадскія паркі і скверы. Каб апярэдзіць іншых такіх жа і зарабіць больш, яны ламаюць галіны, а то і ссякаюць пад корань прыгажуні-рабіны. І нікому, на жаль, няўцям, якую шкоду яны наносяць прыродзе і самім сабе.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**





# БЕЛАРУСКАЯ СВЯТЫНЯ ВІЛЬНІ



**Мінулая нядзеля стала гістарычнаю для шматлікіх беларусаў каталіцкага веравызнання Літвы і тым больш Вільні. Нарэшце тут асвечаны храм-касцёл Святога Барталамея, у якім беларусы будуць мець магчымасць чуць слова Божае на роднай мове. Падзея сталася рэальнаю вялікімі намаганнямі беларускай дыяспары і ксяндза Яна Шуткевіча, вядомага тым, што многія святыні на Бацькаўшчыне былі падняты ім з руінаў і вернуты вернікам. Зразумела, цяпер, на духоўна-рэлігійным падмурку супольнасць віленскіх беларусаў будзе мацнейшай, што характэрна для большасці любых эмігрантаў свету. Касцёл Святога Барталамея быў асвечаны віленскім арцыбіскупам Алдрысам Бачкісам, а штодзённыя вячэрнія набажэнствы будзе праводзіць айцец Ян.**

**Анатоль КЛЯШЧУК.**

**Фота аўтара.** *Вільня.*

## Хроніка апошніх падзей

● **Прэзідэнты ЗША і Расіі Клінтан і Ельцын** падпісалі ўчора ў Крамлі два пагадненні — аб узаемным паведамленні наконт запуску ракет у трэціх краінах і аб скарачэнні запасаў зброевага плутонію — на 50 тон з кожнага боку. На прэс-канферэнцыі, якая адбылася пазней, прэзідэнт Клінтан выказаў перакананасць, што эканамічны крызіс у Расіі можа быць вырашаны толькі пры ўмове працягу і развіцця ўжо пачатых рэформаў. Паводле яго слоў, ЗША і Міжнародны валютны фонд гатовыя дапамагаць Расіі і далей, калі яна будзе працягваць рухацца па шляху рынячнай эканомікі. Прэзідэнт Ельцын у сваю чаргу пацвердзіў рашучасць працягваць рэформы. Адначасова ён падкрэсліў ролю ЗША і Расіі як гарантаў глабальнага міру і бяспекі.

● **Дзярждума паўторна разгледзіць** пытанне аб кандыдатуры Віктара Чарнамырдзіна на пасаду прэм'ер-міністра Расіі ў пятніцу, 4 верасня. Рашэнне прынята на ўчарашнім пленарным пасяджэнні палаты. Дэпутаты адхілілі прапанову ўключыць у парадак дня праект палітычнага пагаднення паміж заканадаўчай і выканаўчай галінамі ўлады. Супраць галасавалі фракцыя КПРФ, група аграрыяў, «Народаўладдзе» і «ЯБЛЫК». За — «Наш дом — Расія» і ЛДПР. Дума пасля бурных дэбатаў не прыняла за аснову праект пастановы «Аб звароце да грамадзян Расіі» — па сітуацыі ў краіне.

● **Міжнародны валютны фонд лічыць,** што чарговую частку крэдыту Расія можа атрымаць толькі пасля таго, як Масква дакажа свой намер працягваць курс эканамічных рэформаў. Намеснік дырэктара-распарадчыка фонду Фішэр у інтэрв'ю Сі-Эн-Эн паведаміў, што рашэнне аб выдзяленні Расіі чарговай часткі крэдыту ў памеры 4 мільярдаў 300 мільёнаў долараў адкладваецца, як мінімум, да кастрычніка. Масква разлічвала атрымаць грошы да 15 верасня.

● **Прэзідэнт Францыі Жак Шырак** сёння пачынае трохдзённы візіт ва Украіну. У парадку дня яго перагавораў у Кіеве — імкненне Украіны ўступіць у Еўрапейскі саюз і закрыццё Чарнобыльскай АЭС. Міністр замежных спраў Францыі Ведрын нядаўна заявіў, што аб уступленні Украіны ў ЕС рана гаварыць, таму што ў краіне недастаткова развітыя рыначныя адносіны.

● **У горадзе Дурбан (ПАР) адкрыўся двухдзённы саміт** Руху недалучэння, у якім прымаюць удзел прадстаўнікі 113 краін. У цэнтры ўвагі сустрэчы — праблемы развіццёвых краін, канфлікт у Конга і іншыя пытанні. Учора, у ходзе папярэдніх дыскусій, адбыліся перагаворы міністраў замежных спраў Індыі і Пакістана. Гэта была першая з пачатку года сустрэча на такім высокім узроўні паміж прадстаўнікамі Дэлі і Ісламабада пасля нядаўніх ядзерных выпрабаванняў, праведзеных абедзвюма краінамі.

● **Прадстаўнікі Сусветнай харчовай праграмы ААН** звярнуліся з заклікам аб тэрміновай фінансавай дапамозе ў памеры 20 мільёнаў долараў, неабходнай для барацьбы з вынікамі засухі на Кубе. Агенцтва заявіла, што насельніцтва Кубы аказалася на грані голаду ў выніку анамальных умоў надвор'я, якія напаткалі краіну ўжо другі год запар. Плануецца, што харчаванне будзе раздавацца дзецям, цяжарным жанчынам і састарэлым людзям. Аднак паводле слоў групы кубінцаў, якія жывуць у выгнанні ў Маямі, адзіны састарэлы чалавек, які атрымае выгаду ў выніку гэтай аперацыі, — гэта Фідэль Кастра.

**Паводле паведамленняў інфармацыйных агенцтваў.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Да 2000 года ў краінах Лацінскай Амерыкі і Карыбскага басейна ад СНІДу будзе гінуць людзей ва ўзросце ад 15 да 44 гадоў больш, чым у аўтамабільных катастрофах.

Гэта пакуль невылечная хвароба будзе забіраць больш за 70 чалавек з кожных 100 тысяч, у той час як на дарогах жыццё будуць страчваць 46 чалавек. А найбольш цяжкае становішча назіраецца ў Бразіліі, дзе зараз зарэгістравана 110.845 носьбітаў інфекцыйнага імунадэфіцыту — больш чым ва ўсіх краінах Лацінскай Амерыкі і Карыбскага басейна, разам узятых.

**ІТАР-ТАСС**

*Як вядома, найлепшы спосаб затрымаць развіццё карыесу — рэгулярна чысціць зубы. Аднак гэта поўнасцю не пазбаўляе ад бактэрый, якія разбураюць зубную эмаль. Таму амерыканскія вучоныя вырашылі нейтралізаваць бактэрыі, змяніўшы іх генітычную структуру такім чынам, каб яны выдзялялі не кіслату, а ... спірт. Па словах прафесара Джэфа Хілмана з Фларыдскага універсітэта, першы дослед быў паспяховым толькі часткова: праз некалькі пакаленняў бактэрыі набылі ранейшую ўласцівасць.*

**ІТАР-ТАСС**

Шэсць тысяч бутэлек гарэлкі было зліта нядаўна ў Волгу. Яшчэ 380 тысяч, якія заляжаліся на складах, напаткае такі ж сумны лёс. Справа ў тым, што пакуль не знойдзены больш цывілізаваны спосаб знішчэння гэтай атруты, якая выраблена ў падпольных цэхах і канфіскавана адтуль падатковай інспекцыяй і паліцыяй Ніжагародскай вобласці. Кажуць, некаторыя аматары «зялёнага змея», якія сталі відавочцамі такой жудаснай расправы, кінуліся купацца.

**«Труд»**

## «Беларускі варыянт» — лепшы...

«Рэальнае значэнне новага назначэння Барысам Ельцыным Віктара Чарнамырдзіна на пасаду прэм'ер-міністра заключаецца ў тым, што Расія цяпер пачала пераход да пост-ельцынскага перыяду.

Вялікая частка расійскай банкаўскай сістэмы тэхнічна з'яўляецца банкрутам. Чарнамырдзін сутыкаецца з кволым выбарам палітыкі. Яму цяжка вымусіць сваіх фінансавых сяброў — і будучых карпаратыўных падаткаплацельшчыкаў — да банкруцтва.

Да таго ж нават прапанова надрукаваць грошы для падтрымкі банкаў можа прымусіць МВФ прыпыніць праграму крэдытавання Расіі. Але якімі б цяжкімі ні былі справы, яны могуць яшчэ пагоршыцца. Раздаюцца ўплывовыя галасы на карысць таго, каб адмовіцца ад жорсткай валютнай палітыкі і кіравацца «беларускім варыянтам».

**«Файнэншл таймс»** *(Вялікабрытанія).*

## Дзяржава абанкруцілася

«Расійскія СМІ «па парадзе з самага верху» пазбягаюць называць рэчы сваімі імёнамі — дзяржава абанкруцілася. У цяперашнім стагоддзі такі феномен назіраўся толькі двойчы: у Аргенціне і ў Расіі 1917 года, калі бальшавікі адмовіліся плаціць царскія даўгі. Праз 81 год усё можа паўтарыцца».

**«Прэссе»** *(Аўстрыя).*

## «Так Таццяна пераканала тату Барыса»

«Пасля многіх сумненняў, пакутуючы ад дакораў сумлення, верагодна, менавіта дачка Таццяна Дз'ячэнка, бліжэйшая супрацоўніца расійскага прэзідэнта Барыса Ельцына, пераканала бацьку перагледзець уладныя паўнамоцтвы Сяргея Кірыенкі і новага прэм'ера Віктара Чарнамырдзіна.

Апошнія сумненні Таццяны, відаць, развеяліся ў мінулую пятніцу, калі Дума прагаласавала за запрашэнне Ельцыну дабраахвотна пайсці ў адстаўку. Цяпер рубель упаў, а Таццяну пераканаў яе сябра, нафтавы магнат Барыс Беразоўскі, які забяспечыў вяртанне Чарнамырдзіна на пасаду Сяргея Кірыенкі.

Таццяна, як сцвярджаюць, спытала Беразоўскага: чаму менавіта Чарнамырдзін, якога яна не цэніць, а не малады рэфарматар? Адказ Беразоўскага: «За ўсё сваё жыццё ў Ельцына не было больш вернага супрацоўніка, чым Чарнамырдзін. Толькі ён у якасці будучага шэфа Крамля можа не дапусціць змянення рэжыму і пазбегнуць узбуджэння судовага працэсу супраць Ельцына».

Вось так Таццяна, верагодна, і перакала бацьку саступіць.

**«Кар'ерэ дэла сера»** *(Італія).*

## «Самае рэзкае падзенне курса рубля за апошнія 4 гады»

Прэзідэнт Барыс Ельцын, які раптоўна звольніў Сяргея Кірыенку з пасады прэм'ер-міністра, адказваючы на пытанні аб здароўі, сказаў: «Усё цудоўна». Аднак палітыкі і бізнесмены сцвярджаюць, што Ельцын так да канца і не паправіўся ад хваробы, якая паразіла яго ў мінулым снежні. Перыядычна здаецца, што ў яго азмрочана свядомасць і ён не ў стане дзейнічаць. Ад якой менавіта хваробы ён пакутуе, невядома.

**«Вашынгтон пост»** *(ЗША).*

## «Расія: краіна, якая ідзе да хаосу»

Фармальна прэзідэнт Ельцын кіруе краінай. Нефармальна яе ўзначальвае в. а. прэм'ер-міністр Віктар Чарнамырдзін. Ходзяць упартыя чуткі, што яму прадастаўлены надзвычайныя паўнамоцтвы: быццам бы прэзідэнт на словах перадаў яму аператыўны кантроль над паліцыяй, арміяй і былым КДБ.

**«Гардзіян»** *(Вялікабрытанія).*

## Расіі патрэбны сёння моцная ўлада і жорсткія палітычныя рашэнні

Ва ўмовах фінансава-эканамічнага крызісу, які паразіў сёння Расію, ёй патрэбны моцная ўлада і жорсткія палітычныя рашэнні. У адваротным выпадку нельга выключыць таго, што адчай людзей можа выліцца на вуліцы.

Такое меркаванне выказала ў інтэрв'ю «Інтэрфаксу» ў панядзелак дырэктар Інстытута прыкладной палітыкі Вольга Крыштаноўская.

Яна заявіла, што «нават у выпадку зацвярджэння Думай на пасадзе прэм'ера Віктар Чарнамырзін будзе «фігурай пераходнай», а «прыход да ўлады ў краіне такога жорсткага палітыка, як краснаярскі губернатар Аляксандр Лебедзь, непазбежны». Дырэктар інстытута прыкладной палітыкі «амаль упэўнена», што «дэмакратыя ў Расіі не выстаіць». А па прычыне таго, што вяртання ў камуністычнае мінулае «ўжо не можа быць са 100-працэнтнай упэўненасцю», дык у краіне ўсталюецца «нейкі новы рэжым».

Растлумачваючы яго сутнасць, В. Крыштаноўская заявіла, што «ў сваёй крайняй форме праявы гэта будзе дыктатура, а ў лепшым выпадку — аўтарытарная ўлада». Найбольш яркімі «носьбітамі» апошняй з'яўляюцца, па словах палітолага, А. Лебедзь і мэр Масквы Юрый Лужкоў. Але, мяркуе яна, «насельніцтвам, якое адчаялася, будзе хутчэй за ўсё запатрабаваны Лебедзь».

# У ЗНЕШНІМ ГАНДЛІ ЗАСТАЮЦЦА НЕГАТЫЎНЫЯ ТЭНДЭНЦЫІ

**Асноўныя паказчыкі знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь за I паўгоддзе ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года сведчаць аб негатыўных тэндэнцыях у адносінах з многімі дзяржавамі, дзе наша краіна мае дыпламатычныя прадстаўніцтвы. Гэты факт прыйшлося канстатаваць удзельнікам нядаўняга сумеснага пасяджэння Міністэрства знешніх эканамічных сувязяў і Міністэрства замежных спраў.**

Аб'ём беларускага экспарту сёлета моцна знізіўся перш за ўсё ў развітыя краіны. У гэтым спісе лідэрам з'яўляецца Канада, куды Беларусь стала прадаваць айчынных тавараў на 67,16 працэнта менш, чым у I паўгоддзі 1997 года. У Ізраіль аб'ём экспарту знізіўся на 58,22 працэнта, у Швейцарыю — на 56 працэнтаў, і нават у Іран і Польшчу — на 58,18 і 33 працэнты адпаведна.

Паказчыкі адмоўнага гандлёвага сальда з некаторымі замежнымі краінамі нават дазваляюць назваць сітуацыю драматычнай. Перавага імпарту над экспартам у адносінах з Германіяй, напрыклад, складае 250 мільёнаў долараў ЗША. На Украіне Беларусь купляе тавараў больш на 226 млн., у Польшчы — на 70, Італіі — на 61, Вялікабрытаніі — на 58, у Францыі — на 51 млн. долараў.

Бадай, адзіным прыемным момантам з'яўляецца пашырэнне гандлёва-эканамічных сувязяў з азіяцкімі краінамі і, у прыватнасці, з Кітаем. У стасунках з КНР наша краіна выглядае даволі прыстойна. За I палову года абарот склаў 70 млн. долараў ЗША, прычым са станоўчым для Беларусі сальда ў 23 млн.

Улічваючы такую сітуацыю, у МЗЭС лічаць, што неабходна больш актыўна працаваць з краінамі Паўднёва-Усходняй Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі, з арабскімі дзяржавамі, дзе беларуская прадукцыя знаходзіць большы попыт, чым на еўрапейскіх рынках.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

**Не цяжка заўважыць, што прапанаванае гэтым разам апавяданне адрозніваецца ад іншых конкурсных. Яно напісанае крыху нязвыклай для нас літаратурнай моваю. І гэта вельмі добра, што адрозніваецца. Як сцвярджаў паэт Алег Бембель (сын вядомага беларускага скульптара), «няхай любая славіць мова святое Божае імя»; замест «святое Божае імя» можна падставіць — «літаратуру ў высокім яе значэнні».**

**Так і своеасаблівая, арыгінальная, як і ён сам, мова Масея Ларывонавіча Сяднёва — аднаго са старэйшых беларускіх пісьменнікаў — няхай яшчэ доўга-доўга славіць і святое Божае імя ў цэлым, і нашую Літаратуру ў свеце — у прыватнасці.**

**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**

*На конкурс «Звязды» і Саюза пісьменнікаў*

Масей СЯДНЁЎ

# ТРУНА

**Апавяданне**

АПРАЧА ГРАМАДЗЯНСКАГА шлюбу яна захацела ўзяць яшчэ і царкоўны. Я ахвотна пагадзіўся: дачка ж святара і для яе гэты царкоўны шлюб, канешне ж, мусіць нешта значыць. Упершыню я сустрэўся з ёй на студэнцкім балі ў Марбургу. Дзеля яе прыгажосці быў нясмелы ў абыходжанні з ёю, а супернікаў у мяне хапала, яны заляцаліся вакол яе больш наважна, і мяне, нясмелага, адціскалі. Яна мяне якбы й не прыкмячала. Але ўсё-ткі, калі скончыліся танцы, — а было ўжо позна, — я суправаджаў яе да ейнай кватэры. Перад слаба асветленым ганкам мы супыніліся. Гаворка не йшла. У нейкай нялоўкасці яна не ведала, як са мною развітацца. Аднак было ясна адно — на запросіны я не магу разлічваць.

Закаханы ў яе, у смутку, еду праз усю ноч да свайго прытулку.

Гэта была мая адзіная з ёю сустрэча. У гарадок, дзе я жыў, яна прыязджала разам з студэнцкім хорам. У гонар гэтага хору было наладжана ўрачыстае прыймо, але я, хоць і хацеў, не пайшоў туды: ніякага, ведаў — поспеху ў яе не буду мець, тым больш, што ў тым хоры была большая палавіна хлопцаў, куды больш зухаватых, чымся я. Дзяўчаты ў тым хоры былі ўжо спеўшыся з тымі хлопцамі-студэнтамі, і куды мне, думаў я, патыкацца. Шчыміла сэрца, але адвагі пабачыць яе так і не меў.

Неўзабаве яна выехала ў іншую краіну, і мой сум па дачцы святара яшчэ больш укараняўся ў душы. Каб не страціць яе канчальна, наладзіў з ёй кантакт — лістоўны. На мае поўныя захаплення лісты яна адказвала акуратна, хоць і стрымана. Аж неспадзявана ў адным лісце піша, што яна чакае мяне, хоча, каб я як найхутчэй прыязджаў да яе. Радасці маёй не было канца: чакае, значыцца, я нешта значу для яе. Ды ні з таго, ні з сяго — ліст ад майго сябры: піша, што ў яго ўжо ўсё наладжана з святаровай дачкой, думае пабрацца з ёй і просіць мяне, каб я не меў ніякіх там спадзяванняў.

Боль, роспач агарнулі душу маю. Але лістоў да святаровай дачкі не перастаю пісаць, і на іх яна адказвае, нічога аднак не згадваючы пра намер майго сябры.

...Мінае год — і я ў краіне святаровай дачкі. Званю. Прашу сустрэчы. Дае згоду. І от я ў яе, за сталом святаровай дачкі. Частуе віном, і мы ўжо знайшлі было агульную мову, усталяваўся нейкі кантакт, а тут званок — уваходзіць незнаёмы мне чалавек і святарова дачка замірае з ім у абдымках. Схамянуўшыся, знаёміць мяне з прышэльцам. Я не ведаю, як мне быць. Я свой — не свой. Пакідаю іх адных.

Назаўтра яна звоніць. Гаворыць, што ў іх нічога не было. Просіць прыйсці. Не ведаю, ісці, ці не ісці. Аднак пайшоў. Нашыя сустрэчы сталіся рэгулярнымі. Ложак для нас ужо не быў навіной.

Але ў мяне няма яшчэ працы, і яна ўжо не можа сцярпець такога майго беспрацоўнага становішча — папракае куском хлеба.

Ды праца тая знайшлася, знайшоўся і кут, і мы — пабраліся. Замацавалі нашае сужыццё шлюбам грамадзянскім і царкоўным. Ды вось бяда — мой кут ёй не спадабаўся, гаворыць, яна хоча вярнуцца ў свой гарадок, дзе яна пражыла ўжо цэлы год. Там ейныя знаёмыя і лепшыя ўмовы, чымся ў маім вялікім, страшным горадзе. З сваімі спажыткамі ў пасцілцы мы й прыехалі аўтобусам у ейны гарадок. Пры сустрэчы з знаёмымі, некаторыя з іх, замест каб рукацца, хапалі святарову дачку вышэй локця. Быў я ў недаўменні, што з маёй жонкай гэтак вітаюцца пры маёй прысутнасці. Але не бяда. Я люблю святарову дачку.

У жончыным гарадку пасялілася таксама добра мне знаёмая сям'я: матушка з сынам і нявесткай. Нейкі час я жыў у гэтай сям'і і быў у ёй проста за сына. І от іду з жонкай прадставіцца, горды ў сваім новым становішчы. Знаёмлю сваю жонку, святарову дачку, найперш з матушкай. Матушка багаслаўляе нас, цалуе, ахоўна кладзе сваю руку на маю галаву. Вітаюць нас горача і сын, і нявестка. Я ў захапленні выказваю сваю радасць ад сустрэчы, не бачыліся ж ужо колькі гадоў, матушка для мяне як родная маці. І тут святарова дачка, мая жонка, нечакана для прысутных асадзіла мяне грубым: «Трапло!»

Называецца, прадставіўся. Але не бяда. Я люблю святарову дачку, маю жонку.

Ужо тыдзень, як мы жывём, як муж і жонка. Яна прыглядаецца да мяне, вывучае. Галюся, а яна нервова: «Што ты так часта шморгаеш па шчацэ? Не можаш адным заходам збрыць?»

Быў спякотны дзень і мы ўвечары пасля працы выйшлі з свае каморкі на шпацыр. А нам насустрач — мой сябра, той, што прасіў у мяне адмовіцца ад святаровай дачкі. А й не ведаў, што ён ужо ачалавечаўшыся, але мая жонка папрасіла яго перадаць прывітанне «сваёй Олі», і для мяне ўсё стала ясна. Сябра адразу ж адчапіўся і мы яшчэ доўга блукалі ціхімі вулічкамі жончынага гарадка. Але я ўвесь час вычуваў, што жонка нешта хоча сказаць, але ўсё не можа. Стаімо ўжо пад дзвярыма нашага жытла. Але жонка не бярэцца за клямку, каб адчыніць. Маўкліва стаіць, у стоенасці. У змроку я не бачу ейнага аблічча. Маўчу таксама. Аднак стоенасць жонкі перарываецца і я чую спакойнае, роўнае: «Давай разыдземся». Мяне ўсяго апякло і я нібы некуды праваліўся. Калі апамятаўся, хацеў спытаць, ды не мог: «А як жа з царкоўным шлюбам, з прысягай?» Драма перад дзвярыма нашага жытла працягвалася. Я пачаў прасіць, маліць яе перадумаць, угаворваў не разыходзіцца. І ўгаварыў неяк.

І гэтак, не разышоўшыся, мы жывём ужо мала не 50 год. Я хворы і нядужы. Еду ў знакамітую лячэбніцу на аперацыю. Жонка супраць: чаго добрага, памрэш там.

— Ну дык і што, што памру? Прышлюць труну і пахаваеш.

— Я не хачу ні цябе, ні тваёй труны. Мела з табой, жывым, клопат, але не хачу мець клопату з мёртвым.

Ды ўсё роўна я еду ў лячэбніцу на аперацыю. Трэба.

І як я паехаў, маёй жонкай апанаваў страх, што і на самай справе я памру, і ёй прышлюць труну са мною, мёртвым. Страх гэты мацнеў з кожным днём. Пачала з трывогай глядзець на дзверы: от адчыняцца яны і ёй унясуць труну. А не дай Бог, калі пастукаюць у якой патрэбе ў дзверы, скурчыцца, зацісне далонямі вочы і чакае... быццам нейкага ўдару, пакуль не высніцца, што ніякай труны няма. Гэта ў дзённы час. А ўначы? Няма той начы, каб яна не сніла труну. Бачыць, учатырох, моцна грукаючы ботамі па сходках, уносяць ёй у спальню труну і стаўляюць у ложак побач яе, прыгаворваючы: «Не хацела спаць з жывым, дык спі цяпер з мёртвым». Крышка сама знімаецца з труны, і адтуль вылазіць мярцвяк, лезе да яе цалавацца. Прачынаецца з крыкам і не верыць, што гэта быў толькі сон: да таго рэальнай была тая труна і людзі, якія яе неслі. Баялася раніцой з спальні ісці па сходках у гасцёўню: там можа стаяць труна ў чаканні гаспадыні. Труны не было, і яна супакойвалася. Найгорш ноч. Няма той начы, каб ёй не снілася труна. Але як жа не спаўшы? А ляжа — вочы стаўпом, не можа заснуць. Скрозь зрэнкі бачыць труну. Пачала труціць сябе таблеткамі. Але таблеткі яшчэ больш распальваюць уяву. Грабае рукамі побач сябе, ці не няма той труны. А то труна спускаецца на яе, ляжачую, са столі, наблізіцца да яе твару і ўзнімецца. І гэтак колькі разоў: наблізіцца — узнімецца, наблізіцца — узнімецца... Але й гэта ўсё нічога. Труна ўжо загаварыла: «Я пасялюся ў тваёй гасцёўні. Буду жыць з табою, не разыходзячыся. Гэта ты разыходзілася. Буду жыць з табою вечна. Чакаю цябе ў гасцёўні».

Прачнулася. Страх сцяў усю. Раніца, а ў гасцёўню спускацца жудасна. Але як жа не спускацца? Калі ўжо труна з ёю неразлучная?

Яна перахрысцілася. Мацае нагамі прыступку за прыступкаю — сыходзіць з спальні ўніз у гасцёўню. Адхінае заслону — перад ёй стаю я пасля аперацыі.

Як звар'яцелая, ускрыкнула: «Дык ты не ў труне? А дзе ж труна?»

# Юрый Сянкевіч у космас не паляцеў, але не стаў ад гэтага менш вядомым

**«Старэйшай тэлеперадачай цэнтральнага тэлебачання (зараз ГРТ) з'яўляецца «Клуб падарожнікаў», якая ўпершыню выйшла ў эфір 18 сакавіка 1960 года. За амаль чатыры дзесяцігоддзі існавання ў тэлеэфіры з'явілася больш як дзве тысячы выпускаў «Клуба падарожнікаў». Гэтай папулярнай перадачы належыць яшчэ адзін неверагодны для тэлебачання рэкорд»: 25 гадоў — з 1973 года — яе нязменным вядучым з'яўляецца Юрый Аляксандравіч Сянкевіч». Вось такі запіс мы знайшлі ў «Кнізе рэкордаў Гінеса». Таму сёння наш госць — Юрый СЯНКЕВІЧ.**

Аб чым можна размаўляць з Юрыем Аляксандравічам? Вядома ж, аб падарожжах. Але справа гэта нялёгкая, таму што Сянкевіч здольны расказваць аб сваіх вандроўках суткамі. У нас жа такой магчымасці не было, таму пагаворым аб самым галоўным — аб яго рабоце.

**— Юрый Аляксандравіч, ці праўда, што мы маглі б вас і не ўбачыць на перадачы «Клуб падарожнікаў», калі б ажыццявілася ваша мара дзяцінства і вы сталі б касманаўтам?**

— Я думаю, тут здзіўляцца няма чаму, мая кар'ера больш адпавядае атрыманаму выхаванню і адукацыі, чым тая, аб якой ведаюць тэлегледачы. Я нарадзіўся ў Манголіі ў 1937 годзе — мой тата быў ваенным урачом і па абавязку службы аказаўся ў гэтай азіяцкай краіне. Закончыўшы школу я таксама вырашыў ісці яго дарогай і паступіў у Ленінградскую Ваенна-медыцынскую акадэмію, тым больш, што яна знаходзілася ў двары нашага дома. Пытанне аб тэлебачанні наогул тады не магло стаяць на парадку дня. Затое нечакана блізка стала думка аб палёце ў космас, бо мяне запрасілі на працу ў Інстытут ваеннай і касмічнай медыцыны. Ішоў 1962 год, усяго год прайшоў пасля палёту Гагарына, усё яшчэ было прасякнута рамантыкай пакарэння Сусвету. І калі я ўбачыў касманаўтаў твар у твар, то вы ўяўляеце, які быў у мяне стан. Я канкрэтна займаўся праблемамі бязважкасці, а паколькі стварыць на Зямлі бязважкасць немагчыма, то самай простай мадэллю для нас аказаўся... пасцельны рэжым. Мы ўкладвалі добраахвотніка ў ложак, спачатку на тыдзень, затым на два, затым на месяц. Кардыёлагі, якія атрымлівалі нашы даныя, былі ўзрушаны: як згубна дзейнічае на чалавечы арганізм простае ляжанне ў пасцелі. Дарэчы, менавіта тады стала зразумела, што пасля сардэчна-сасудзістых захворванняў хворага ні ў якім разе нельга трымаць на пасцельным рэжыме так доўга, як думалі раней.

Неўзабаве мяне ўключылі ў атрад касманаўтаў, і я стаў рыхтавацца да палёту у якасці ўрача-даследчыка. Была створана праграма эксперыментальнай экспедыцыі ў космас чалавека з сабакам. Адбыўся нават трэніровачны палёт двух сабачак, якіх я аперыраваў і ўразаў ім усялякія электроды. І гэта было для мяне сапраўды гістарычнай падзеяй. Па дзвюх прычынах. Па-першае, мае Вецярок і Вугалёк прабылі на арбіце 22 дні, пабіўшы тым самым рэкорд знаходжання жывой істоты ў космасе. І, па-другое, тады ж я ўпершыню трапіў на тэлебачанне. Мяне запрасілі выступіць разам з іншымі вучонымі, якія распрацоўвалі гэту праграму. Праўда, на той час ніякія прадчуванні наконт маёй магчымай работы на тэлебачанні мяне не наведалі. У 1966 годзе памёр Сяргей Паўлавіч Каралёў, які патраніраваў эксперымент, і праграма развалілася, але засталася мая вялікая цяга да падарожжаў — у Антарктыду, у пустыні, у горы — усюды, дзе праводзіліся эксперыменты.

**— І ўсё ж перамагло тэлебачанне?**

— Як сказаць! Ва ўсім «вінаваты» мой стары сябар — Уладзімір Ухін — той самы «дзядзька Валодзя» з «Добрай ночы, малышы». Ён ведаў, што я выступаю з лекцыямі, расказваю аб экспедыцыі. І неяк прапанаваў разам выступіць на сустрэчы з гледачамі. Нам спадабалася, і мы сталі гэтую справу практыкаваць. А аднойчы ён патэлефанаваў мне і сказаў: «Цябе хочуць паспрабаваць на тэлевядучага». Я згадзіўся, хоць добра памятаў, як у час майго першага прыходу на тэлебачанне я проста баяўся тэлекамеры. У прынцыпе, я і сёння адчуваю сябе не надта ўтульна ў тэлестудыі. Вось так я стаў вядучым «Клуба падарожнікаў». Хоць чыста штатным супрацоўнікам тэлебачання я так і не стаў, больш як 15 гадоў працаваў «няштатнікам». І толькі ў 1990 годзе мяне ўзялі аглядальнікам на паўстаўкі.

**— Вы працягвалі падарожжы ўжо ў новай якасці?**

— Я заставаўся ваенным і працягваў працаваць у інстытуце. У тэлегледачоў жа складвалася ўражанне, што я толькі і раблю — катаюся па ўсяму свету. Я сапраўды шмат раз'язджаў, але пераважна па лініі інстытута на навуковыя кангрэсы з дакладамі і толькі па сумяшчальніцтву, калі быў час і магчымасці, здымалі штосьці і для «Клуба...» Акрамя таго, мы выкарыстоўвалі матэрыялы «Цэнтрнавучфільма» і закупленыя ЦТ за мяжой.

**— Якія цікавыя моманты, звязаныя з працай на тэлебачанні, вы можаце ўспомніць?**

— Вакол мяне, як вядучага праграмы «Клуб падарожнікаў», часта « раіліся» розныя чуткі. Самым вялікім «прызнаннем» народнай любові стала чутка аб маёй жаніцьбе на Пугачовай. Пугачова — самая папулярная жанчына ў СССР, ну а самы папулярны мужчына па гэтай аналогіі , атрымліваецца, Сянкевіч! Жартую, вядома. Але так было.

Ці вось яшчэ выпадак. Выклікае аднойчы мяне Лапін, тагачасны кіраўнік Цэнтральнага тэлебачання, і кажа, што я тэрмінова павінен выступіць у праграме «Час». Я здзівіўся, бо ніколі не меў дачынення да «галоўнай» тэлепраграмы Савецкага Саюза. Пытаюся, за што такі гонар? Але выразнага тлумачэння ад яго так і не атрымаў.

І толькі праз некалькі дзён праз «трэція» вушы да мяне дайшло, што, маўляў, па нейкіх чутках вядучы «Клуба падарожнікаў» Юрый Сянкевіч... загінуў у аўтакатастрофе, што гледачы тэлефануюць на тэлебачанне, выказваюць спачуванні і пытаюцца, калі пахаванне. Тады я гэтага не ведаў, і мне давялося мучыцца, сачыняць штосьці, каб апраўдаць сваё з'яўленне ў інфармацыйнай праграме.

**— Юрый Аляксандравіч, у апошнія гады на розных каналах з'явілася шмат перадач, аналагічных вашай. Вы не баіцеся канкурэнцыі?**

— Канкурэнцыі я не баюся. «Клуб падарожнікаў» выходзіць у эфір 38 гадоў і за гэты час яго палюбіла не адно пакаленне тэлегледачоў. Ведаеце, «Мерседэс», якога б года выпуску ён не быў, заўсёды застанецца «Мерседэсам».

**— У вас такое чыста беларускае прозвішча. Ці няма ў вас часам беларускіх каранёў?**

— Цяжка сказаць. Я спецыяльна гэтым не займаўся, але не выключаю, што продкі мае маглі нарадзіцца на беларускай зямлі.

**Гутарыла Вольга РАМАНЮК.**

Читателям газеты «Звезда»

# ДЗЕЦЯМ — МАРОЖАНАЕ... І ХОПІЦЬ.

Гэтую тэму не лічаць актуальнай. Размова пойдзе пра ідэю стварыць у Беларусі музей дзіцячага мастацтва. Падумаеш, нейкая дзіцячая творчасць. Дарослыя ледзь дух пераводзяць. Падумаеш, — «творчасць». Галоўнае, каб дзеці былі накормленыя і раслі здаровыя. А гульні яны сабе знойдуць таннейшыя за фарбы і пэндзлі.

Знаходзяць. І тады з'яўляюцца больш актуальныя тэмы для напісання артыкулаў.

Тым не менш, некаторыя ўпарта носяцца з ідэяй стварыць музей дзіцячай творчасці. Такім, напрыклад, быў Сяргей Каткоў. Вярнуўшыся з вайны, у разбураным Мінску ён арганізаваў мастацкую студыю. Яго студыйцы па-дзіцячы пісалі гісторыю горада, краіны. Яны малявалі жыццё, якое вярталася ў горад, клапатліва пераносілі на паперу будоўлі цэлых мікрараёнаў, малявалі, як саджалі дрэвы і кветкі. А калі выязджалі ў іншыя гарады, увогуле не шкадавалі фарбаў. Бывала, пасля такіх паездак настаўніка выклікалі ў ЦК з пытаннямі тыпу: «А чаму гэта вашы выхаванцы малююць цэрквы?» Прыходзілася знаходзіць пераканаўчыя аргументы на карысць «помнікаў архітэктуры», каб захаваць студыю, каб вучыць дзяцей бачыць прыгожае. І ствараць яго таксама. Многія знакамітыя цяпер людзі пачыналі шлях у мастацтва са студыі ў Рэспубліканскім палацы піянераў: мастакі Стэльмашонак, Сумараў, Шчасная, архітэктары Левін, Градаў. Іх самыя першыя працы захоўваў настаўнік у надзеі, што прыйдзе час і «жывая» гісторыя, напісаная дзецьмі (што асабліва цэнна), камусьці спатрэбіцца. Больш за дваццаць гадоў таму настаўнік-мастак памёр, так і не дачакаўшыся ўвагі да сваёй ідэі. А тым часам у іншых краінах адкрыліся музеі дзіцячага мастацтва.

У сярэдзіне 80-х мастак Уладзімір Стэльмашонак спрабаваў стварыць дзіцячы эстэтычны цэнтр. Якраз быў час пераломаў. Ізноў знайшліся больш актуальныя праблемы.

Мастачка Святлана Каткова лічыць, што дзіцячая творчасць так і застанецца «несур'ёзнай» тэмай для большасці дарослых, якія паўсюдна шукаюць «канкрэтны інтарэс». Ад бацькі ёй дасталася багатая спадчына — малюнкі. Архіў пасяліўся ў яе дома. Здараецца, што ўжо дарослым людзям яна дорыць іх першыя творы. Тыя дзівяцца: якім цудам гэта захавалася? Цудам не цудам, а гісторыю нельга проста ўзяць і выкінуць.

Ірына Кузняцова — рэферэнт Саюза мастакоў па рабоце з дзецьмі і моладдзю. Пры дзіцячым санаторыі «Астрашыцкі Гарадок» яна стварыла галерэю «Калібры». Акрамя таго, гэтая жанчына амаль на адным энтузіязме арганізавала чатыры міжнародныя дзіцячыя пленэры, прысвечаныя Шагалу, Экзюперы, Рэрыху, Чурлёнісу. Канешне, была пэўная спонсарская падтрымка, але і яе прыходзілася «арганізоўваць». Калі не казаць пра тое, што прадстаўнікі дзяржавы ўвогуле з цяжкасцю разумелі неабходнасць падобных мерапрыемстваў. Пленэры былі паспяховымі. Работы дзяцей вісяць у дзіцячых дамах, харэаграфічным вучылішчы. Альбо каму-небудзь падораны. А яны маглі б размясціцца ў асобнай зале. Як і каштоўны архіў Каткова.

Самае дзіўнае, на думку Ірыны, што стварыць такі музей зусім не цяжка. Можна, пры жаданні, знайсці нейкі дзіцячы садзік, дзе размясціліся б выставачныя залы. У мастачкі нават гатовы цэлы праект — як і што там павінна быць. Усё ўпіраецца ў падтрымку дзяржавы ў асобе міністэрстваў адукацыі і культуры. Каб чыноўнікі лепей разумелі, пра што ідзе размова, усе звароты і пісьмы Ірына Кузняцова пачынае з цытавання ўказаў прэзідэнта. Маё пытанне: «Дзеля чаго траціцца столькі сіл?» — знайшло вельмі просты адказ. «Я хачу, каб дзяржава клапацілася пра таленавітых дзяцей...»

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## Дзмітрый КАПУСЦІН:

# «У БЕЛАРУСІ 45 ЖАНЧЫН ЖАДАЮЦЬ СТАЦЬ «ПАЎНАЦЭННЫМІ» МУЖЧЫНАМІ

### З кіраўніком Мінскага гарадскога сексалагічнага цэнтра Дзмітрыем Капусціным гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса»

**Са зменай дакументаў працэс не заканчваецца. Ужо ў такім палавінчатым стане, калі чалавек, напрыклад, па дакументах ужо мужчына, але пры візуальным аглядзе яшчэ жанчына, транссексуал набывае права не толькі змяніць работу з «жаночай» на «мужчынскую» (ці наадварот), але і стварыць сям'ю, адаптуючыся ў ёй у новых для сябе ўмовах.**

**— ДЗМІТРЫЙ ЗІНОЎЕВІЧ, урад рэспублікі зацвердзіў палажэнне аб стварэнні міжведамаснай камісіі па медыка-псіхалагічнай і сацыяльнай рэабілітацыі асоб з сіндромам непрымання свайго полу. Чым абумоўлена неабходнасць стварэння гэтай камісіі?**

— Прырода іншы раз распараджаецца так, што народжаны ў жаночым аблічны чалавек адчувае ўнутры сябе мужчынскія схільнасці і задаткі. Пры гэтым ёсць выпадкі і зусім процілеглыя, калі народжанае з усімі знешнімі прыметамі хлопчыка дзіця з часам жадае бачыць сябе жанчынай. І хоць падобнае здараецца не часта, яно мае месца, і гэта трэба прызнаць. Сусветная статыстыка сведчыць, што такія выпадкі адбываюцца ў сярэднім адзін раз на 70 тысяч народжаных дзяцей. Калі прытрымлівацца гэтай методыкі падліку, дык на 10-мільённае насельніцтва Беларусі можа прыпадаць да 300 падобных людзей, якіх, згодна з медыцынскай тэрміналогіяй, прынята называць транссексуаламі.

Іншымі словамі, гэта людзі, якім уласціва стойкае ўсведамленне сваёй прыналежнасці да процілеглага полу, нягледзячы на правільнае фарміраванне палавых прымет. Падобная акалічнасць у цэлым і вызначае вобраз і манеру паводзінаў гэтых людзей. З ранняга дзяцінства яны, маючы гэтае разугадненне, уступаюць у самую сапраўдную барацьбу з навакольным светам за прызнанне за імі права на іншае імя, іншае адзенне, іншыя ацэнкі іх паводзінаў. Усведамляючы сябе прадстаўнікамі іншага полу і імкнучыся да гармоніі «душы і цела» яны, нягледзячы на пратэсты сваякоў і блізкіх, пачынаюць насіць адзенне «свайго» полу і ў адпаведнасці з гэтымі абставінамі выбіраюць сабе сяброў, праяўляючы зайздросную ўпартасць у жаданні хірургічным шляхам выправіць «памылку прыроды».

Пасля працяглых дэбатаў ва ўрадавых службовых кабінетах вясной гэтага года і было прынята рашэнне аб стварэнні міжведамаснай камісіі па медыка-псіхалагічнай і сацыяльнай рэабілітацыі асоб з сіндромам непрызнання полу. У састаў камісіі былі ўключаны 15 прадстаўнікоў міністэрстваў аховы здароўя, юстыцыі, унутраных спраў, абароны і адукацыі.

**— Якая ж прычына існавання такой з'явы, як транссексуалізм?**

— Яго прырода да канца не вывучана. Найбольш верагодным мне ўяўляецца тое, што ў перыяд палавой дыферэнцыяцыі, якая адбываецца ва ўнутрывантробным перыядзе развіцця дзіцяці, яго мозг дыферэнцыруецца па іншаму тыпу, чым уся фізічная будова ў цэлым. З развіццём свядомасці ў гэтых людзей узнікае жаданне жыць і быць прынятым у грамадстве ў якасці асобы процілеглага полу. Для многіх з іх гэтая задача становіцца жыццёвай праграмай.

Прычына гэтай з'явы застаецца пакуль для вучоных загадкай. З пэўнай доляй упэўненасці можна толькі выказаць меркаванне, што генетычны код бацькоў, перададзены іхнім дзецям, тут ні пры чым. Пацвярджэннем гэтаму можа служыць тое, што ў транссексуалаў, якія не падвяргаюцца аперацыйнаму ўмяшанню, нараджаюцца нармальныя здаровыя дзеці.

Спробы дапамагчы гэтай катэгорыі пацыентаў медыкаментозным шляхам, якія ажыццяўляліся доўгі час, станоўчых вынікаў не далі. Вопыт лячэння іх з дапамогай гіпнозу таксама не прынёс жаданага выніку. Таму спецыялісты сышліся на думцы, што дапамагчы «мужным» жанчынам ці «жаноцкім» мужчынам можна толькі пайшоўшы ў апошніх на поваадзе.

**— Што ж неабходна прайсці і пераадолець тым асобам, якія ўпэўнены, што са змяненнем полу ў іх жыцці наступіць карэнны перелом у лепшы бок?**

Перш за ўсё пераадолець узроставы цэнз, вызначаны прынятымі ў рэспубліцы нарматыўнымі актамі ў 21 год. Выказаўшы жаданне змяніць пол, чалавек становіцца на ўлік у Мінскім гарадскім сексалагічным цэнтры ці ў кабінеце сексапаталогіі па месцы жыхарства. Пасля гэтага на працягу года ён будзе знаходзіцца пад рэгулярным наглядам цэлага тузіна ўрачоў: псіхолага, эндакрынолага, уролага, гінеколага, генетыка... Згодна з выпрацаванай у рэспубліцы методыкай, на працягу гэтага года пацыенту ў абавязковым парадку, але з яго згоды трэба на працягу месяца прайсці таксама стацыянарнае абследаванне ў псіхіятрычнай лячэбніцы.

Праз год усе матэрыялы, звязаныя з абследаваннем канкрэтнага чалавека, перадаюцца на разгляд створанай пры Міністэрстве аховы здароўя камісіі па медыка-псіхалагічнай і сацыяльнай рэабілітацыі, пра якую мы гаварылі. Па выніках заключэння гэтай камісіі, у выпадку вынясення яе членамі станоўчага рашэння, канкрэтная асоба мае права пачаць хаджэнне па інстанцыях з мэтай змены дакументаў, якое абавязкова пачнецца з ЗАГСа, дзе гэты чалавек зменіць пасведчанне аб нараджэнні. У ім будуць указаны зменены пол і адпаведна імя. Гэтае пасведчанне паслужыць у далейшым падставай на атрыманне новага пашпарта, вадзіцельскага пасведчання, дыплома аб заканчэнні навучальнай установы і іншых дакументаў, звязаных са сведчаннем асобы.

Пры гэтым трэба нагадаць, што са зменай дакументаў працэс не заканчваецца. Ужо ў такім палавінчатым стане, калі чалавек, напрыклад, па дакументах ужо мужчына, але пры візуальным аглядзе яшчэ жанчына, транссексуал набывае права не толькі змяніць работу з «жаночай» на «мужчынскую» (ці наадварот), але і стварыць сям'ю, адаптуючыся ў ёй у новых для сябе ўмовах.

Па прадугледжанай у рэспубліцы працэдуры «карэкціроўкі» полу чалавеку ў такім стане яшчэ цэлы год трэба будзе знаходзіцца пад наглядам медыкаў. Калі пасля завяршэння гэтага тэрміну ніякіх проціпаказанняў не выяўлена, пацыент будзе мець права звярнуцца да медыкаў з прапановай аб аперацыйным умяшанні. Гэты від аперацый у нас у рэспубліцы робяць у Мінскай абласной клінічнай бальніцы і абыходзіцца яна пацыентам ад 300 да 800 долараў ЗША. У расійскіх клініках аналагічныя аперацыі каштуюць у шмат разоў даражэй. Небяспеку для здароўя чалавека ў гэтым выпадку ўяўляе не так сама аперацыя, як неабходнасць у наступным пажыццёва прымаць гарманальныя прэпараты таго полу, які выбраны. Цяпер толькі адзін такі ўкол каштуе ад 100 тысяч рублёў. Больш таго, з пацыента бярэцца распіска, што ён папярэджаны аб негатыўных наступствах гарманальнай тэрапіі, якая павялічвае верагоднасць захворвання анкалагічнымі хваробамі. Таму пра ўсе асаблівасці пацыент папярэджваецца загадзя. Толькі ў гэтым выпадку за ім застаецца апошняе слова. Узважыўшы ўсе «за» і «супраць», яму вырашаць: дастаткова для яго ўмоў сацыяльнай рэабілітацыі ў выглядзе дакументаў, ці ёсць неабходнасць у правядзенні некалькіх аперацый.

**— Наколькі, на вашу думку, апраўдана паслядоўнасць працэдур палавога «пераўвасаблення», калі асоба, якая настойвае на палавой карэкціроўцы, спачатку атрымлівае дакумент і толькі праз працяглы час атрымлівае магчымасць падагнаць свой знешні выгляд да таго, што ўказваецца ў дакументах. Ці не ўзнікае ў сувязі з гэтым дадатковых цяжкасцяў?**

— Праблемы сапраўды ўзнікаюць. У практыцы ўжо меў месца выпадак, калі транссексуалу, які толькі што атрымаў новыя дакументы, трэба было легчы ў бальніцу для стацыянарнага медыцынскага абследавання. Як зрабіць у гэтым выпадку? У якую палату яго змясціць — у мужчынскую ці жаночую? Пытанне пакуль застаецца адкрытым, аднак спецыялісты схіляюцца да думкі, што ў падобных выпадках ужо мэтазгодна размяшчэнне хворых гэтай катэгорыі ў адпаведнасці з пашпартнымі данымі.

Не вызначана пакуль дзеючымі ў рэспубліцы нарматыўнымі актамі і методыка, як у гэтым выпадку быць ваенным камісарыятам. Відаць, варта падумаць пра тое, каб, уручыўшы ваенны білет гэтай вельмі нешматлікай групе навяўленых «мужчын», не прызываць іх на ваенную службу і армейскія зборы. Я думаю, што ў адносінах да гэтай катэгорыі людзей гэта будзе гуманна.

З усяго сказанага не трэба рабіць выснову аб шырокай маштабнасці гэтай праблематыкі. Тым не менш, трэба прызнаць, што ўсё гэта мае месца. Так, на ўліку ў Мінскім сексалагічным цэнтры цяпер стаяць 52 чалавекі, якія выказалі жаданне з дапамогай медыкаў «падкарэкціраваць» прыроду. Прычым жанчын, якія жадаюць стаць мужчынамі, з іх выключная большасць — 45. Аднак заключэнне камісіі аб прызнанні іх транссексуаламі з наступным правам на змяненне дакументаў да цяперашняга часу атрымалі толькі 19 чалавек. Астатнія чакаюць заключэнняў спецыялістаў і медкамісіі.

## УСМЕШКА МАСТАКА




Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

# БРЫГАДЗІР КАЛГАСА ЎКРАЎ ПАД'ЁМНЫ КРАН

### 449 аматараў лёгкага хлеба ўжо прыцягнуты да крымінальнай адказнасці

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» начальнік службы ўпраўлення па эканамічнай злачыннасці ( УЭЗ) Міністэрства ўнутраных спраў краіны Уладзімір ЯНКОЎСКІ, сёлета міліцыя правяла шэраг спецыяльных мерапрыемстваў па прадухіленню і выяўленню крадзяжоў сельгаспрадукцыі і калгасна-саўгаснай маёмасці. У прыватнасці, выконваючы патрабаванні прэзідэнта, выказаныя падчас селектарнай нарады, супрацоўнікі УЭЗ сумесна з іншымі міліцэйскімі падраздзяленнямі актыўна дапамагаюць зменшыць страты ўраджаю. Толькі за перыяд з 1 па 25 жніўня падчас жніва міліцыяй было выяўлена 446 эканамічных злачынстваў у сельскагаспадарчым сектары эканомікі. Да крымінальнай адказнасці прыцягнута 449 чалавек, у тым ліку - 17 кіраўнікоў сельгаспрадпрыемстваў.

Напрыклад, камбайнер і трактарыст калгаса «Шлях да камунізму» Стаўбцоўскага раёна ўкралі больш за тону жыта. Супраць гэтых механізатараў узбуджана крымінальная справа.

Аналагічнае злачынства ўчынілі механізатары калгаса імя Гагарына Брагінскага раёна, якія ўкралі ў роднай гаспадаркі амаль 2 тоны зерня. І такіх фактаў у міліцэйскай статыстыцы нямала.

Дарэчы, некаторыя вясковыя зладзеі, карыстаючыся тым, што ўся ўвага зараз сканцэнтравана на ўборцы ўраджаю імкнуцца прыхапіць сёе-тое з калгаснай маёмасці. Крадуць з калгасных двароў літаральна ўсё, што «дрэнна ляжыць». А брыгадзір калгаса «Старобінскі» Салігорскага раёна нейкім чынам ухітрыўся нават «сцягнуць» цэлы пад'ёмны кран. Але схаваць такую махіну брыгадзіру не ўдалося. Міліцыя хутка выявіла злодзея і вярнула гаспадарцы яе маёмасць.

Увогуле, толькі за перыяд з 1 па 25 жніўня супрацоўнікі міліцыі прадухілілі страты сельгаспрадукцыі і калгасна-саўгаснай маёмасці амаль на 2,5 мільярда рублёў.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## Post Factum

## Гэты дзень у гісторыі

● **3 верасня 1752 года** — дзень, якога не было ў гісторыі Вялікабрытаніі і яе калоній. У сувязі з пераходам на грыгарыянскі каляндар пасля 2 верасня наступіла 14-е.

● **У гэты дзень у 1773 годзе** падпісаннем Парыжскага міру паміж Вялікабрытаніяй і 13 былымі паўночнаамерыканскімі калоніямі завяршылася амерыканская вайна за незалежнасць. Вялікабрытанія прызнала незалежнасць Злучаных Штатаў.

● **У гэты дзень у 1774 годзе** царскія войскі пад камандаваннем Суворава каля Царыцына нанеслі рашаючае паражэнне ў ходзе сялянскай вайны 1773—75 гадоў сілам Емяльяна Пугачова. Пугачоў змог уцячы, але пазней быў выдадзены сваімі саратнікамі, прывезены ў Маскву і пакараны.

● **3 верасня 1848 года** нарадзіўся чалавек, які больш за ўсіх жыхароў Зямлі знаходзіўся ў шлюбе — 86 гадоў — сэр Цемулы Нарыман.

● **3 верасня 1927 года** нарадзіўся выдатны беларускі пісьменнік, публіцыст, доктар філалагічных навук Алесь Адамовіч, аўтар аповесцей і раманаў аб вайне — «Вайна пад дахамі», «Сыны ідуць у бой», «Хатынская аповесць», «Карнікі», «Апошняя пастараль» і інш.

● **У гэты дзень у 1967 годзе** Швецыя перайшла на правабаковы (дарожны) рух, прыняты ў большасці краін свету. Найбольшую збянтэжанасць новаўвядзенне ўнесла ў рады левага (палітычнага) руху краіны. У выніку ўтварыліся дзве партыі: Левая партыя — камуністы (прыхільнікі ранейшых правілаў язды на дарогах) і Рабочая партыя — камуністы (улічвалі новыя рэаліі). Такім чынам праціўнікамі і прыхільнікамі новаўвядзення папаўнялі яны свой электарат ва ўмовах крызісу камуністычнага і рабочага руху ў Еўропе ў 60-х гадах.

## Дзесьці на белым свеце

***Амерыканскім паліцэйскім па сваёй службе даводзіцца сутыкацца з вялікай колькасцю дастаткова дзіўных рэчаў. Так, патруль, які ў адзін цудоўны дзень праязджаў па гораду Саўт Рывер, нечакана ўбачыў дом, які быццам рыхтавалі да таго, каб яго памясцілі ў духоўку — будынак наглуха быў абматаны фальгой.***

Нават страшна ўявіць, колькі фальгі пайшло на тое, каб поўнасцю «загарнуць» двухпавярховы будынак, не пакінуўшы не закрытай ні сантыметра паверхні. Паліцэйскія пазванілі ў званок, але гаспадары ім не адчынілі. Пачаліся перагаворы. Праз адзінаццаць гадзін сям'я, якая складалася з трох чалавек, усё ж выйшла на вуліцу. Свой учынак людзі растлумачылі тым, што баяцца... шкодных промняў Сонца, ад якіх і спрабавалі выратавацца пры дапамозе фальгі.

## І так бывае

***Беспрацоўе стала звычайнай з'явай у многіх краінах свету. І калі ў краінах развітога капіталізму беспрацоўны можа на дапамогу хадзіць у рэстаран, то ў некаторых іншых дзяржавах страта працы можа давесці да поўнага адчаю.***

Вось, напрыклад, ва Угандзе нечакана для сябе быў звольнены школьны настаўнік. Бедалага так быў узрушаны стратай працы, што вырашыў звесці рахункі з жыццём. Аднак, як адукаваны чалавек, ён вырашыў усё зрабіць законным чынам. Хаміду Намаё з'явіўся ў аддзяленне паліцыі горада Кампалы і напісаў заяву з просьбай, каб яго... застрэлілі. Паліцэйскія адказалі, што настаўнік з'явіўся не па адрасу і выклікалі брыгаду дзяжурных псіхіятраў.

Далейшы лёс самазабойцы невядомы.

## Кур'ёзы

***Няўважлівасць для вартаўнікоў закона часта раўназначна нават гібелі, а вось ліверпульскі паліцэйскі Майкл Эдзісан дзякуючы сваёй рассеянасці ўхітрыўся паправіць уласны сямейны бюджэт.***

Па прафесіі Майкл кінолаг, ён трэніраваў сабак для нялёгкай патрульнай службы. А росту ў ім — метр дзевяноста, што не было ўлічана пры будаўніцтве новага паліцэйскага пітомніка для сабак, калі рабілі там дзверцы вышынёй усяго ў 160 сантыметраў. Калі Майкл увайшоў у новае жытло сваіх падапечных, тыя з радасным брэхам кінуліся яму насустрач. Ад расчуленасці ён забыў прыгнуцца і з усяе сілы трэснуўся галавой аб столь.

Пасля траўмы ў Эдзісана разыграўся артрыт, і ён вымушаны быў пакінуць працу ў родным паліцэйскім участку, дзе верай і праўдай праслужыў 16 гадоў. А, аказаўшыся без працы, падаў на яго ж у суд.

Ён абвінаваціў паліцэйскае кіраўніцтва ў недастатковым клопаце аб супрацоўніках, які заключаўся ў тым, што тыя не павесілі таблічку з дакладным указаннем вышыні злашчасных дзвярэй. Некалькі дзён назад былы кінолаг выйграў працэс, садраўшы са сваіх былых босаў 200 тысяч долараў.

## Навінкі

***26-гадовы Джордж Тэхеры атрымаў шэсць месяцаў турмы за «псаванне маёмасці» сваёй сяброўкі Ціны Сміт.***

Даведаўшыся, што дзяўчына тайком «настаўляе яму рогі», сустракаючыся з яго ж лепшым сябрам, Тэхеры прабраўся на кватэру міс Сміт і ўчыніў там пагром, нічога, аднак не ўкраўшы і не пашкодзіўшы.

Ад помсты раўніўца пацярпела толькі кошка легкадумнай Ціны. Раз'юшаны Джордж размаляваў яе серабрыстае футра нязмыўнай чорнай фарбай, што было прызнана строгім судом злосным парушэннем правоў прыватнай уласнасці.

## Анекдот

*Прыбягае Пятачок да Вінні Пуха.*

*— Вінні, Вінні, нам прыйшла пасылка з Афрыкі! У ёй дзесяць апельсінаў. Табе сем, і мне сем.*

*— Як так?! — здзіўляецца Вінні. — Іх жа ўсяго дзесяць!*

*— Мяне гэта не турбуе. Сем сваіх я ўжо з'еў.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі і фінансавых экспертыз — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.779. Індэкс 63850.
Зак. № 5243.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12